


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 36 (3304) Год LXIV | Беласток, 8 верасня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# IV З'езд выпускнікоў і 70-годдзе Гайнаўскага белліцэя

Размова з дырэктарам Гайнаўскага белліцэя **Ігарам Лукашуком** і старшынёй Аргкамітэта з'езда выпускнікоў гэтай школы **Яўгенам Янчуком** — былым вучнем і настаўнікам гісторыі белліцэя.

**— З'езд выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, які з 1999 года называецца Агульнаадукацыйным ліцэем з дадатковым навучаннем беларускай мовы, запланаваны на 28 і 29 верасня. Якія выпускнікі могуць прыняць у ім удзел?**

**Яўген Янчук:** — Прынята рашэнне, што ў з'ездзе будуць маглі прыняць удзел выпускнікі белліцэя, якія закончылі вучобу ў 2010 годзе і раней.

**— Ці ў з'ездзе будуць маглі прыняць удзел асобы, якія вучыліся толькі ў Гайнаўскай белгімназіі?**

**Яўген Янчук:** — Мы арганізуем з'езд выпускнікоў Гайнаўскага белліцэя, які адзначае 70-годдзе сваёй дзейнасці. Будуць маглі прыняць у ім удзел асобы, якія пасля вайны вучыліся ў пачатковай школе і гімназіі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, а пасля прадоўжылі вучобу ў белліцэі і асобы, якія з 1999 года вучыліся ў Гайнаўскай белгімназіі і прадоўжылі вучобу ў белліцэі.

**— Раней з'езды выпускнікоў Гайнаўскага белліцэя арганізаваліся рэдка.**

**Яўген Янчук:** — Пяць гадоў таму назад у час трэцяга з'езда выпускнікоў мы прынялі рашэнне, што з'езды будзем арганізаваць кожныя пяць гадоў. Завязаўся ў нас аргкамітэт і рыхтуемся ладзіць чацвёрты з'езд, які будзе прымеркаваны да 70-годдзя школы.

**— 70-годдзе Гайнаўскага белліцэя адзначалася яшчэ ў папярэднім школьным годзе.**

**Ігар Лукашук:** — Юбілей 70-годдзя белліцэя мы рашылі адзначаць на працягу ўсяго 2019 года. Знаёмім мы нашу моладзь з гісторыяй школы, якая пачынаецца з 1949 года. Арганізавалі мы выставу на тэму гісторыі школы і экспазіцыю, прымеркаваную папярэднім з'ездам выпускнікоў. Наладзілі мы ўжо сустрэчы ліцэістаў з выпускнікамі і будзем іх прадаўжаць. Нашы ліцэісты спаткаліся з цяперашнім і былым настаўнікамі фізікі — Дарыюшам Мусюком і Аляксандрам Лаўрыновічам (які быў таксама намеснікам дырэктара), якія расказалі пра белліцэй і адукацыю цяпер і ў мінулым. Галоўнае святкаванне 70-гадовага юбілею белліцэй арганізуе ў суботу, 28 верасня. Спалучанае яно са з'ездам выпускнікоў, які ладзіць аргкамітэт з'езда.

**— Які парадак святкавання юбілею школы і з'езда выпускнікоў?**

**Ігар Лукашук:** — Святкаванне юбілею школы будзе адбывацца ў спартыўнай зале з удзелам выпускнікоў, вучняў, настаўнікаў і гасцей. Маем намер паказаць фільм пра белліцэй і фільм з выказваннямі нашых выпускнікоў. Апошні фільм незавершаны і маем намер папоўніць яго ў час з'езда выказваннямі яго ўдзельнікаў. Запланаваная цікавая мастацкая частка ў выкананні нашых вучняў. Адметнасцю юбілею будуць вакальна-музычныя выступленні выпускнікоў. Прадугледжана выступленне калектыву «Дубіны» ў даўнім складзе, які аднавіў актыўнасць у час патанцоўкі ў Беластоку. Прадбачваем выступленні выпускніц Ілоны Карпюк і Касі Дробат з гуртам «The Dvery».


Фота Аляксея МАРОЗА

Ігар Лукашук


Фота Аляксея МАРОЗА

Яўген Янчук

**Яўген Янчук:** — Рэгістрацыя ўдзельнікаў з'езда будзе адбывацца яшчэ перад супольным святкаваннем юбілею белліцэя. Пасля супольнай сустрэчы будзе перапынак і час для размоў выпускнікоў, якія ў некаторых выпадках даўно не бачылі адзін аднаго. Пазней для ўдзельнікаў з'езда прадбачаны сустрэчы ў класах у групах асоб, якія канчалі вучобу ў падобным часе. Тады таксама па чарзе будуць выконвацца супольныя фатаграфіі груп выпускнікоў. Сустрэчы могуць прадоўжыцца, а ахвотныя будуць маглі пайсці на могілкі і ўскласці кветкі і запаліць зніччы на магілах настаўнікаў і сяброў, якія адышлі ў лепшы свет. На вечар прадбачаны баль выпускнікоў, у час якога можна будзе танцаваць не толькі пад музыку, якую будзе пускаць вядучы, але таксама пад гукі калектыву «Дубіны». Формула з'ездаў выпускнікоў выпрацоўвалася раней і мы рашыліся трымацца нашай традыцыі. Ахвотныя ў нядзелю, 29 верасня, будуць яшчэ маглі спаткацца і паразмаўляць ля вогнішча.

**— Вы, спадар Яўген, былі вучнем і настаўнікам гісторыі белліцэя ў Гайнаўцы. Як успамінаеце перыяды вучобы і працы?**

**Яўген Янчук:** — Калі я вучыўся ў старым драўляным будынку Гайнаўскага белліцэя, была ў нашай школе цёплая сямейная атмасфера. Вельмі добра ўспамінаю гэты перыяд свайго жыцця. Хаця займалася ў нашай школе звыш 200 вучняў, калідорау было нямнога і мы пастаянна сустракаліся ў вучнёўскай грамадзе і прынамсі ў твар ведалі адзін аднаго. Настаўнікі былі часткай гэтай добрай школьнай атмасферы і адначасна стараліся перадаць нам як найбольш ведаў і навучыць многім умеласцям. Наш белліцэй быў крыніцай ведаў пра жыццё і тагачасны свет. Я ў белліцэі знаёміўся з беларускай мовай, гісторыяй і культурай, што дало салідныя падставы пазней пашыраць веды ў гэтых галінах. Калі стаў я на працу настаўнікам гісторыі, прыйшлося працаваць у шыкарным і мадэрным як на той час будынку. Калі я быў вучнем, большасць школьнай моладзі састаўлялі вяскоўцы. Падчас маёй працы пераважалі ўжо вучні з Гайнаўкі, паколькі вёскі сталі абязлюджвацца. Сямейная атмасфера са старой школы пераўтварылася ў сяброўскую атмасферу паміж вучнямі і настаўнікамі — прынамсі так я гэта адчуваў. Вучні ў вялікім школьным будынку маглі і не спаткацца праз некалькі дзён, але ліцэісты з падобнымі зацікаўленнямі сустракаліся на занятках у школьных гуртках. Я пераняў апеку над Клубам беларускіх спраў, які да мяне арганізаваў і вёў настаўнік гісторыі і старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа, таксама выпускнік нашага белліцэя. У рамках гэтага клуба адбывалася знаёмства з беларускай культурай і нашым мінулым.

**— У Гайнаўскага белліцэя доўгая і цікавая гісторыя, многа поспехаў у галіне адукацыі.**

**Ігар Лукашук:** — У час святкавання юбілею школы выпускнікам пакажам мультымедыйную прэзентацыю пра гісторыю белліцэя, цяперашнюю дзейнасць школы і поспехі нашых вучняў. У арганізацыю святкавання моцна заангажаваліся настаўнікі, вучні і бацькі. Хочам зацікавіць удзельнікаў мерапрыемства мастацкай часткай, багаццем і разнароднасцю нашай культуры. Паколькі святкаванне юбілею 70-годдзя Гайнаўскага белліцэя адбываецца ў час з'езда выпускнікоў школы, рыхтуемся да яго ў супрацоўніцтве з аргкамітэтам з'езда.

**— Тады добра было б, каб у з'ездзе прыняло ўдзел як найбольш выпускнікоў белліцэя.**

**Яўген Янчук:** — Удзел у з'ездзе з балем абмежаваны колькасцю асоб, якія могуць памясціцца на балі. Аднак усе ахвотныя могуць прыняць удзел у частцы з'езда, спалучанай з юбілеем школы, якая закончыцца пачастункам і сустрэчамі ў адукацыйных залах, хаця гэта таксама будзе адбывацца ў адпаведнасці з умовамі ўдзелу ў з'ездзе, на які сардэчна запрашаем усіх ахвотных.

**— Дзе можна даведацца пра ўмовы ўдзелу ў з'ездзе выпускнікоў Гайнаўскага белліцэя?**

**Яўген Янчук:** — Пра ўмовы ўдзелу ў з'ездзе і яго ход можна даведацца патэлефанаваўшы ў сакратарыят Гайнаўскага белліцэя, на сайце ліцэя і на фан-старонцы фейсбука «Jubileusz 70-lecia szkoły. Zjazd absolwentów».

**— Дзякую за размову і жадаю паспяховага сарганізавання з'езда выпускнікоў і святкавання 70-гадовага юбілею белліцэя.**

Гутарыў **Аляксей МАРОЗ**





# Рабіце вашы стаўкі...

У Беларусі поўным ходам ідуць парламенцкія выбары...

Ну, як бы тыя выбары ні называліся, парламенцкія ці ў Палату прадстаўнікоў, ці яшчэ як, назва сутнасці не мяняе. Галоўнае напаўненне. Ці як казаў адзін генерал: „Херня вайна, галоўнае манеўры”. Так і тут, на выбарах, дзе спіс будучых кандыдатаў можна агучыць задоўга да пачатку выбарчай кампаніі, галоўным становіцца працэс. Бо іншага сэнсу ў актывізацыі такой масы чыноўнікаў і насельніцтва, калі і так вядомы канчатковы вынік, знайсці цяжкавата. Працэс, працэс, і толькі працэс!

Працэс мусіць быць бездакорным! Вось што павінен памятаць кожны дзяржаўны чыноўнік! За бездакорны вынік адказваюць іншыя інстанцыі. Ну а адказнасць за працэс ляжыць на стомленых плячах мясцовых чыноўніках усіх роўняў. Для нечага ж і яны патрэбныя. Таму чатырохмесячная мітусня мясцовых чыноўнікаў мусіць мець прыхаваны ўзровень істэрыі вельмі высокага напалу. Каб напрыканцы завяршэння гэтага тэатральнага акту хаатычная актыўнасць хоць часткова перадалася астатняму насельніцтву, ды актывізавала яго прыйсці на выбарчыя ўчасткі. Нават калі не ўсе ўцямяць, з якой мэтай.

Для актывізацыі насельніцтва ёсць старыя правераныя спосабы. Такія, як ласкавая просьба да выбаршчыкаў з боку начальства на працы ці па месцы жыхарства, каб тыя схадзілі і прагаласавалі. Адмовіць такой шчырай просьбе даволі цяжка. Ёсць і іншы спосаб, такі як узбуджэнне цікавасці да выбараў праз апанентаў ад апазіцыі. Праз тых апанентаў, якія самі даказваюць поўную абсурднасць працэсу, у якім самыя ж і ўдзельнічаюць. Штосьці ў гэтым удзеле ёсць канспіралагічнага, неразгаданага, нязведанага, таямнічага, непадуладнага для сярэдняга інтэлекту... Ну, што ж, у кожнага свая тайная зброя, пра якую, часамі, і яе ўладальнікі не здагадваюцца.

Зрэшты, чыноўнікі і без іх абыішліся б. Лёгка! Што, што, а забяспечыць працэс — у гэтым яны майстры. Усё жыццё толькі тым і займаюцца. І калі яны могуць вышэйстаячаму начальству галаву задурыць прадставіўшы жаданае за сапраўднае, то звычайнаму абывацелю яўна могуць падаць такі малюнак, які захочуць. Бо менавіта ўменнем забяспечыць працэс і вызначаецца ступень прафесіяналізму чыноўніка.

І ўсё б было добра, але зноў спатыкнуліся аб мову. Ну, гэта беларуская мова! Вечна аб яе спатыкаюцца. Справа ў тым, што ў пастанове Цэнтральнай выбарчай камісіі патрабуецца інфармаваць грамадзян пра ход выбарчага працэсу ў тым ліку і на інтэрнэт-рэсурсах мясцовых адміністрацый у адмысловай рубрыцы „Выбары 2019”. Гэтае патрабаванне чыноўнікі адразу сумленна выканалі, але ў гэтай мітусні выпадкова забыліся, што ў Беларусі дзве дзяржаўныя мовы, а не толькі адна руская. Ну, упусцілі неяк гэты факт! Інфармацыю выставілі на рускамоўных старонках, па-руску, а беларускамоўныя выбаршчыкі пра выбары могуць і не ведаць. А навошта ім ведаць?! Яны, хіба што, і так няправільна галасуюць. Навошта іх інфармаваць, што ў нас выбары пачаліся?! Дзе тут логіка?!

А як чыноўнікам нагадалі, што ў Беларусі яшчэ не паспелі беларускую мову выключыць з ліку дзяржаўных, і пастанова ЦВК хіба што распаўсюджваецца і на беларускамоўнага выбаршчыка, то тыя проста сталі размяшчаць на беларускамоўных старонках інфармацыю па-руску...

Ну а што яны могуць зрабіць?! Дзе яны ў вобласці могуць знайсці ажно сямнаццаць чалавек (ажно цэлага беларускамоўнага чалавека на раён), якія змогуць перакласці інфармацыю на мову тытульнай нацыі?! Беларускую мову адусюль павыціскалі, а тут беларускамоўных падавай! Ну не да апазіцыі ж звяртацца па дапамогу?! Хоць маглі б. Раз апазіцыя, хоча яна ці не, але сваім удзелам дапамагае забяспечыць яўку выбаршчыкаў і надаць выбарчаму працэсу бачнасць логікі, то і тут хіба не адмовіла б...

Ну ды не пра гэта зараз. Паўстае пытанне, як будзе з той мовай на наступных, яшчэ больш важных для чыноўнікаў выбарах? На выбарах прэзідэнцкіх! А там то працэс мусіць выглядаць не проста бездакорным, а каб і пад мікраскопам хібу незаўважна было! І тут адно з двух: або ўсё ж трэба нейкім чынам знайсці хоць аднаго беларускамоўнага перакладчыка на раён, або беларускую мову зусім адмяніць? Цікава, як зробяць?! Рабіце вашы стаўкі, ды хутчэй! Бо прэзідэнцкія выбары ўжо неўзабаве!

**Віктар САЗОНАЎ**

# А ў пчолак...



У людзей фактар асяроддзя моцна вызначае сацыяльнае становішча. У пчол ён адзіны, які вырашае далейшае жыццё насякомых ужо на лічынкавай стадыі. Цікава, што саслоўная прыналежнасць пчол залежыць не ад каралевы, а ад рабочых, якія — пры адпаведным кармленні лічынак — пасля таго як стануць лялечкамі вырашаюць аб іх іерархіі ў вуллі.

Кожнае сямейства будуе гняздо нават да 50 000 асобін. Пчолы перажываюць поўную трансфармацыю, то ёсць лічынкі (расплод) вылупліваюцца з яек, і яны ператвараюцца ў нерухомыя лялечкі. Толькі з лялечкі (якая па форме нагадвае дарослую пчалу), выклёўваецца дарослая асобіна — імага. Самкі вылупляюцца з дыплоідных яек, якія адкладае толькі маці.

Адкуль бярэцца пчаліная маці? Калі ў вуллі пачынае быць зацесна, лічынак занадта шмат, занадта горача альбо старая каралева становіцца неэфектыўнай, надыходзіць ройны настрой. Пчолы пачынаюць будаваць т.зв. матачнік з павялічанымі клеткамі з воску, у якіх будуць расці будучыя маткі. Шлюбны палёт адбываецца ў вясновы, цёплы, бязветраны дзень, звычайна паміж 12 і 18 гадзінай на вышыні да некалькіх метраў. Маці прываблівае трутняў адмысловым водарам ад ферамонаў, якія яна сакрэтуе (адчувальны для трутняў з адлегласці каля 100 м). Матка сукупляецца ў паветры з 10-30 трутнямі. Трутні гінуць адразу пасля акта з-за таго, што пасля спарвання вырываецца ў іх капуляцыйны апарат.

Калі каралева гіне? Гэта здараецца рэдка, але рой гатовы да такой падзеі. Рабочыя выбіраюць маладых лічынак і кормяць іх толькі маткавым малачком. Над клеткамі будучых матак дабудоўваюць матачнікі-гадавальнікі.

Пчолавы расплод. Першы дзень каралева-матка адкладае аплодненыя яйкі ў васковую клетку ў пластыр. Мацярынскія клеткі (будучых матак буйнейшыя!) звычайна размяшчаюцца вертыкальна адносна пластыру. Не аплодненае толькі яйка, з якога развіваецца мужчынскі труцень. Другі дзень. Лічынкі развіваюцца. Наступныя 3 дні іх кормяць маткавым малачком. Пасля гэтага перыяду кормяць малачком толькі будучую каралеву. Будучыя работніцы і будучы труцень атрымліваюць іншую ежу. 9-15 дні. Лічынкі растуць найбольш хутка. Дарослыя работніцы герметызуюць клеткі звонку васковымі вечкамі. Старая каралева за гэты час звычайна пакідае вулей з некаторымі пчоламі. Калі гэтага не зробіць, памрэ. Дзень 16. Маладая каралева пачынае выгрызаць сценкі матачніка. Калі яна не пакіне вулей з наступнай часткай рою, адпраўляецца шукаць іншых маці і забівае іх (у вуллі ёсць нават больш за дзясятак матачнікаў). 21-24 дні. Праз пяць дзён пасля выгрызення каралеўская пераможца ажыццяўляе шлюбны палёт, падчас якога спарваецца са шматлікімі трутнямі. У 21 дзень выгрызваюца работніцы, а ў 24 — трутні. І пачынаецца ўборка ў вуллі. Першае заданне для маладых работніц (праз два дні пасля выгрызення) — прыбраць у вуллі. Пчолкі прыбіраюць пластыравыя клеткі для наступных пакаленняў.

Ці пчала памірае пасля кожнага ўджалення? Не. Калі джаліць бесхрыбетных, гэта можна зрабіць шмат разоў. Толькі ўджаленне пазваночных для пчалы канчаецца гібеллю.

Пчолы — майстрыхі па геаметрыі. Навукоўцы падлічылі, што сценкі сотавай клеткі нахілены адна да адной пад вуглом 72 градусаў 32’. Гэта аптымальны нахіл, які дазваляе эканоміць будаўнічы матэрыял.

Ці ёсць у каралевы-маткі джала? Пчаліныя маці таксама маюць джалы, але выкарыстоўваюць іх толькі для барацьбы за першынство. Вельмі рэдка джаляць чалавека.

Забівае пчол не толькі хімія. Varrea destuctor — павукападобнае насякомае, ад якога пакутуюць пчолы. Яго лялечкі літаральна высмоктваюць вадкасці з арганізмаў насякомых. Сустракаецца ў раях амаль ва ўсім свеце. Распаўсюджвае вірусы. Забіць пчаліную сям’ю можна за 2-3 гады.

Ці могуць работнікі мяняць свой занятак? Так, але гэта бывае ў выпадку неадкладных работ, напрыклад, пры ратаванні роевых рэсурсаў альбо рамонце пашкоджанага вулля.

Сталы ўзрост і старасць у пчаліных работніц выглядае інакш, чым у людзей, таму што старэнькія пчолкі-работніцы пачынаюць тады працаваць найбольш цяжка — яны становяцца збіральніцамі і літаральна «загароўваюцца» на смерць.

**Міра ЛУКША**



Сваімі вачыма

# Сплінне ў Вэрстоку

У нашым падляшска-рэлігійным кругагвароце маем свае прыхадскія святы, якія пры нагодзе выконваюць ролю грамадскіх, інтэграцыйных сустрэч вернікаў не толькі з дадзенай царкоўнай акругі. Для мяне з дзяцінства самым радасным і доўгачаканым святам было сьвяткаванае дваццаць восьмага жніўня Успення Божай Маці, званае ў нас Сплiннем. Пра ўсе прываблівасці страчанага дзіцячага свету ўяўленняў, захапленняў, мар і таямніц рэлігійна-прыроднага быцця застаецца толькі ўспамінаць, разгортваючы перад вачыма карціны, што мелі месца ў гэты дзень у нашай прыхадской царкве ў Вэрстоку. Для пушчанска-сялянскай прасторы асвячэнне ў гэты дзень букетаў-букетаў са збожжа і кветак з агародчыкаў давала духоўную падзяку за працу людзей і пладавітасць зямлі. Менавіта з Успеннем Божай Маці пачынала пасля жніва адпачываць і драмаць карміцелька — Маці Зямля. Засынала яна памаленьку, каб апладатварыцца ізноў у наступным годзе. Узнесеныя ўгару для асвячэння вадой кветкі жыцця, падрыхтаваныя спрацаванымі жаночымі рукамі, былі і ёсць той таямніцай веры, што спалучае нябачнай повяззю свет зямны са светам Госпадзім. Спрадвечная, матрыярхальная духоўнасць і эстэтыка аж надта выразна выяўляюцца ў спалучэнні мацярэй-карміцелек: зямлі, жанчын — гаспадынь і жанчыны — Маці Божай. Гэта трайная спеласць і павага для нашай зямной працавітасці і духоўнага перажывання сакральнасці ў яе прыродна-рэлігійным вымярэнні.

Менавіта пабачыць і спела перажыць усю радасць нашага Сплiння прывяло мяне ў мінулую сераду раніцай у роднае старонне на рэйсавым аўтобусе Беласток — Гайнаўка. Гэтым разам не ўзіраўся я дакладна за рамонтнымі справамі на дарозе, паколькі на нашых старонках усё дакладна апісаў нястомны ніўскі падарожнік Аляксандр Вярбіцкі. Таму я спакойна ўсю сваю ўвагу засяродзіў на прыгажосці зямелькі нашай. Ужо за Нарвай, паваярнуўшы ў Храбустоўку, далей у Ласінку, Трывежу, Кутавую, Катоўку і Дубіны я раптам апынуўся ў зусім іншай краявіднай прасторы, чымсьці ў часы маёй маладосці і дзяцінства. Плылі мы на аўтобусе, быццам у амерыканскім кіно, праз сотні, а мо і тысячы гектараў кукурузных плантацый. Направа — кукуруза, налева — кукуруза, а зжатых жытніх, пшанічных ці аўсяных палёў амаль зусім не бачна. О дажыліся! Кукурузнік Мікіта Хрушчоў — усеўладны першы сакратар камуністычнай партыі Савецкага Саюза — які ў палове пяцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя наказаў сеяць кукурузу ва ўсіх краінах сацыялістычнага лагера, зараз можа сябе адчуваць поўнасцю здзейсненым у гэтай справе. На шчасце другі выклік гэтага бязбожніка — закрываць і ўзрываць хрысціянскія храмы па ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза — на шчасце не быў рэалізаваны да канца, хаця давёў да здзекаў над вернікамі і пераследу хрысціянскіх каштоўнасцей.

Кукурузнае жніво яшчэ перад намі. «Дык з чаго рабіць кветкі для традыцыйнага асвячэння?» — падумалася мне ў кукурузным моры. Аказваецца, што не толькі я задумваўся над гэтым. Перад царквою ў жартоўнай форме гаварылі пра тое даўно нябачаныя знаёмыя. Калі нашу неўраджайную пясчугу мы аблясілі, на лепшых грунтах кукуруза выцесніла збожжавыя культуры, бо ж свіней гадаваць нельга, а тут восьпка асновай корму. Дык што будзем асвячаць у будучыні? «Гучыць мо гэта як чорны гумар, але кукуруза з мясам як яда на велікодным ці калядным сталe замест бульбы ці збожжавага хлеба неўзабаве можа стаць хлебам нашым надзённым», — апавясціў мой суразмоўца.

На шчасце ўгару ўзняліся нешматлікія, прыгожыя кветкі з жытнімі каласамі, арабінай, вяргінямі і іншай квецеенню. Асвячаючы дары лета і зямлі, бацюшка не шкадаваў асвечанай гэтым днём вады. Крапіў з надзеяй, каб не засохла наша традыцыя і памяць пра духоўна-жыватворную крыніцу нашай беларускай, зямной прысутнасці. Радасны царкоўны звон даваў адчуваць нам, што мы, жывыя, сабраліся разам у сябе. І так павінна быць заўсёды. А над намі ў сінім, сонечным небе ў той момант спыніла свой палёт птушачка, якая без трапятання крыламі разам з усімі ўшанавала Сплiнне ў Вэрстоку.

**Яўген ВАПА**



# Дом радасці ў Зубаве

— Як я тут сорак восем гадоў замужжам, то першы раз такі *фэстын* бачу, — кажа Валя Нічыпарук. — Ажно не верыцца, што гэта ў нашым Зубаве.

Валя і Іван Нічыпарукі схаваліся ў халадку, па другім баку вуліцы. Тут усё відна — хто прыехаў, хто ад'ехаў. Пад сцэну страшнавата ісці. Там як на патэльні жарыць, дыхаць няма чым. А ў цяньку міла паслухаць як граюць, спяваюць. І міла, што дажылі такога свята.

Пытаю, ці разам з новай святліцай ажыве іх вёска.

— У нас то такая *молодзёж* пасля шасцідзясяткі, то вядома чаго спадзявацца...

Мае субяседнікі адсылаюць пагаварыць з *настаяшчымі* зубаўцамі.

Мова пра Яўгена Анішчука і Яна Хіліманюка, якія стаяць тры крокі далей і нешта талкуюць.

— А я то з Кнаразоў прыехаў, — спачатку запіраецца спадар Янка.

— А пра што размаўляеце?

— Успамінаем, як тут хадзілі ў школу, як у футбол гулялі, — смяюцца мужыкі. — Раней, дзе зараз Культурна-адукацыйны цэнтр, школа стаяла. Стары, драўляны будынак з XIX стагоддзя. Пасля ў ім клуб зрабілі. Апошнія гады пад ключом стаяў. Баяліся заходзіць, каб столь на галаву не ляснула. А цяпер то, браце, *культура!* Нашай дарогай у Беласток усё ездзяць. Хто не едзе, глядзіць і зайздросціць! *О зубуовціэ як выстроіліся!* Бо пераважна па вёсках будынкі па рамонтах. А ў нас прастора, *кліматызацыя*, мадэрная кухня. Аж міла паглядзець, як нашы гаспадынькі завіхаюцца. Самі, без тых *катрынгаў* (па нашых вёсках кажуць *katring*), наварылі, напяклі...

Мае субяседнікі, хоць на выгляд мужыкі пры сіле, ужо пенсіянеры. Спадар Яўген апісаў гаспадарку на сына, а той дакупіў яшчэ зямлі і нядрэнна гаспадарыць.

— Але яшчэ ён фермер, — робіць агаворку субяседнік.

Спадар Яўген ганарыцца не толькі новай святліцай. Сёння яго ўнучак разам з бабай Нінай Сельвяструк, найстарэйшай жыхаркай вёскі, перарэзалі сімвалічную стужку.

* * *

— Спачатку то зробім добрага *Сільвестра*, — кажа солтыс Ян Зенюк, — каб людзі не думалі, што ў нас адны мярліны і гасціны па пакойніках. Пабудаваць новую святліцу прымусіла сітуацыя. Некалькі гадоў таму, на Яна, у час вясковай забавы трагічна загінуў на вуліцы малады мужчына з Зубава. З той пары людзі не хацелі заходзіць у сярэдзіну клуба. Дадаткова палохаў стан будынка, збудаваны яшчэ пры бацюшку Васілю Кастыцэвічу. Рашылі, што задаволіць іх толькі новы будынак. І тут узнікла праблема. Іх праект не падыходзіў пад еўрасаюзныя датацыі, якія ішлі толькі на рамонты старых святліц і клубаў.

— Спачатку нам сказалі ў гміне, што гэта немагчыма, — успамінае солтыс, — але мы не здаліся, пісалі прашэнні, абівалі парогі. Многа нам дапамог Аляксандр Анішчук, працаўнік гміны, пароднены з нашай вёскай. І хачу сказаць, што ўсё пачалося яшчэ пры старым солтысе Уладзіміры Паўлючуку. Я яго заступіў, цягнуў тое, што ўжо зрабілася.

Ян Зенюк з'явіўся на ўрачыстасці ў добра пашытым касцюме і з букетам кветак для спадарыні войт. Сучаснае Зубава — гэта ўжо спалучэнне вёскі і курорта. Летам сюды прыязджаюць летнікі адпачываць у адрамантаваных хатах бацькоў і дзядоў. У самой вёсцы пастаянна пражывае больш за дзевяноста асоб, але маладых як на лякарства і толькі двое дзяцей. Заходжу на кухню, дзе царствуюць жанчыны.

— Я думаю што святліца нас аб'яднае, — мяркуе энергічная Міраслава Якімюк. — Час ад часу будзем з сабой сустракацца, можа запануе больш згоды ў вёсцы.

Яна сама не спадзявалася, што ў падрыхтоўку свята так моцна заангажуюцца мясцовыя жанчыны. І гэта ўсё на грамадскіх пачатках.

— На сходзе мы дамовіліся, што самі падрыхтуем некаторыя стравы, спячэм пірагі і падрыхтуем дэсерты. Столькі таго наварылі, напяклі, што цяпер гасцей трэба трымаць як найдаўжэй, каб усё з'елі...

У Зубаве ўгашчалі пірагамі, ядой і якасным пітвом усіх, хто з'явіўся на пляцы і вуліцы, як на традыцыйным падляшскім вяселлі. І ўсё гэта пад беларускую музыку, якая ляцела са сцэны.

— Я вельмі ганаруся нашымі дзяўчатамі, — кажа пра вясковых сяброўак стройная пані Мірка.

* * *

У пасляабедзенналe 1 верасня, калі ў Зубаве адкрывалі Культурна-адукацыйны цэнтр, войт Бельскай гміны Раіса Раецкая святкавала падвойна. У гэты дзень выпаў яе дзень народзінаў. І адначасова здзяйснялася яна, што за 34 гады працы ў самаўрадах ёй, ураджэнцы суседніх Плёсак, раней не прыйшлося пабываць на мерапрыемстве ў Зубаве.

Інвестыцыя, кошт якой дасягнуў амаль мільёна злотых, поўнасцю фінансавалася з бюджэту гміны. На адкрыццё прыехалі калектывы з Беларусі, Беластока, Чыжоў, Дубяжына, Парцава.

— У сваёй прамове вы назвалі святліцу «Домам радасці», быццам хацелі забыць пра нашы мярліны і стыпы і адначасова заклікалі рэчаіснасць і наклікалі надзею.



■ Солтыс Ян Зенюк, Ніна Сельвяструк, Раіса Раецкая



■ Бацюшка Юры Смактуновіч, настаяцель Яраслаў Лойка, ксёндз Радаслаў Вехнік

— Без надзеі нічога няма, — кажа Раіса Раецкая. — А я веру ў лепшую будучыню гэтай вёскі. І скажу вам у сакрэце, што нідзе такіх ангажаваных людзей як у Зубаве я раней не сустрэла. Яны самі парадкавалі наваколле, касілі траву, падлівалі туі, якія падарыла надлясніцтва. Я веру, што будынак будзе служыць не толькі для правядзення сямейных мерапрыемстваў. Мы падумаем разам, як уключыць школы і праводзіць культурныя мерапрыемствы, якія будуць аб'ядноўваць пакаленні.

Знакамітую ідэю падкінуў прысутны на свяце Ігар Лукашук, дырэктар Гайнаўскага белліцэя і кандыдат у сенатары ад Грамадзянскай кааліцыі.

— Будынак гэта не толькі сцены, — сказаў ён. — Будынак гэта найперш людзі. Калі я быў настаўнікам у Ягуштове, я вучыў дзяцей з Зубава. Яны вылучаліся непакорлівасцю і жулікаватасцю, аднак усе размаўлялі па-свойму. І я жадаю, каб вы захавалі сваю мову і каб цэнтр дапамагаў вам у гэтым.

* * *

Зубаўскі цэнтр асвяцілі тры святары, у тым ліку новы настаяцель Пасынскага прыхода Яраслаў Лойка. На свята прыехаў таксама ксёндз Радаслаў з Бельска, таму цырымонія асвячэння мела экуменічны характар. Праўда, адзіны зубаўскі католік на свята не з'явіўся. Затое прыехалі многія працаўнікі гміны са старшынёй Рады Станіславам Альшэўскім і намеснікам войта Анатолем Філіпюком. Беларускае асяроддзе прадстаўлялі Ян Сычэўскі і Васіль Сегень з БГКТ. Сярод гасцей спатыкаю ўраджэнца Зубава Аляксея Карпюка, былога дырэктара Бельскага белліцэя.

— Я закончыў тут сем класаў, — кажа спадар Карпюк, — і як амаль усе пайшоў вучыцца далей.

Ці школа ў яго часы была таксама культурным цэнтрам?

— У Зубаве быў настаўнік Нестар Первой, які апрача беларускай мовы папулярызаваў новыя спосабы вырошчвання аграрных культур. Пры школе вяліся палеткі з раслінамі. І была ў нас таксама настаўніца, якая цікавілася этнаграфіяй. Яна стварыла беларуска-рускі вакальны мужчынскі гурток. І тыя хлопцы паехалі з ёй у Беласток на нейкі конкурс і занялі першае месца. Яны спявалі тэнарамі, басамі, барытонамі...

Апошні ўспамін грэе душу. Ці ўдасца зберагчы, аднавіць гэты музычны феномен, якім ад заўсёды славілася Зубава?

З Зубава выйшла многа вядомых людзей, — прадаўжае мой субяседнік. — Адсюль родам Вязоўскі, які пасля вайны працаваў інжынерам на варшаўскіх фабрыках трактароў. Таксама адсюль родам былы рэктар Вышэйшай менеджарскай школы Міхал Лісоўскі і прафесар Яўген Зенюк, беларускія паэты Уладзімір Данілюк і Жэня Мартынюк.

На такі фермент несумненна запрацавала адукацыя і культура, якая вялася пры старой школе. Ці ёсць шанс на прадаўжэнне?

— Сучасныя людзі ўжо не тыя, яны іншыя, — кажа Аляксей Карпюк. — Мне не падабалася як сёння людзі замест слухаць песень між сабой гаварылі. Аж хацеў падысці да мікрафона і суцішыць.

У поспех культурна-асветніцкай працы сумняваецца таксама Патрыцыя Ігнацюк, студэнтка Варшаўскага ўніверсітэта:

— Напэўна цікавей зрабіць імпрэзу тут, чым ездзіць па іншых вёсках, — кажа. — Каб нешта арганізаваць, трэба склікаць людзей з іншых вёсак. У Зубаве няма маладых, але калі нешта разумнае прыдумаеш, хутка з'едуцца. Калі тут арганізаваць канцэрт «Бардаўскай восені», дык старэйшыя напэўна астануцца ў хатах, не прыйдуць. Многія з іх не прыйшлі нават сёння, хаця такога чагосьці ў нас яшчэ не было. Але мяне вельмі цешыць гэты прасторны, новы дом. Я хачу сюды прыязджаць, тут маё месца і радзіма.

— Для мяне Зубава, як пісаў Якуб Колас, «мой родны кут», — дадае Аляксей Карпюк, — я не магу пра яго забыць.

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

## Кузаўскі ўспамін

Пра Кузаву ў «Ніве» друкавалася шмат маіх допісаў, але з ходам гадоў у памяці рысуюцца падзеі даўнейшага жыцця, аб якіх варта ўспомніць. Сяло немалое, доўжыцца больш за кіламетр, як кузаўцы казалі — «ад Блажыенкі да Казленкі». Першай забудовай з боку Чаромхі-Станцыі была хата Рыгора Раманчука сына Блажэя, апошняй у канцы вёскі, перад чыгуначным віядукам была казарма Яна Смалярука, які ажаніўся з Марыяй Казлюковай з-за Кляшчэль. Таму і такую мянушку прышпілілі вёсцы. Перад вайной Кузава налічвала больш за шэсцьдзясят гаспадарак, зараз — сто дзевяць (шмат апусцелых). У сяле не было святліцы. Забавы моладзь арганізавала ў прыватных (самых большых) хатах, у якіх былі паненкі. У Кузаве самай прыдатнай была хата Бартламея Рэпкі. Там пражывала паненка, якую бацькі клікалі Нюрай. Па-суседску праз вуліцу жылі сястрычкі Вера з Надзяй — дочкі Мікалая Калістратавага. На забаве падыгрываў музыкант Хведар Ліпінскі з Рэпчыч. Таму і неўзабаве рэпчыцкія кавалеры пажаніліся з кузаўскімі дзяўчатамі: Хвядось Ліпінскі з Верай Мікалая Калістратавага, Сцяпан Янушык з Нюрай Рэпкай. Кузава лічылася ініцыятыўнай вёскай. Пад канец 1949 года ўзнікла ідэя пабудовы вясковай святліцы. Як сяляне рашылі, так і зрабілі. Работы пачыналіся на грамадскіх пачатках. На сельскім сходзе было прынята рашэнне, што ад кожнага каміна трэба ўнесці складчыну (не прыпамінаю якую), або адрабіць сем дзён. Мнагадзетным сем'ям меншы быў клопат з разлікам, таму што выкарыстоўвалі падлеткаў з фурманкамі ў якасці рабочай сілы. Горш прыходзілася расплачвацца «беспрацоўным» (якія не працавалі на чыгунцы) сялянам, але з гэтым мелі клопат нешматлікія, паколькі кузаўцы лічыліся «зараднымі» гаспадарамі і грош залежваўся ў кашальку. Будаўнічыя матэрыялы, дылёўкі кузаўцы здабывалі з г.зв. вясковай супольнасці. Зрэзвалі самыя стройныя ды тоўстыя сосны, якія пасля пілавалі на брусы. Трачку рэзалі кавалеры самі, уручную, адзін зверху «вядучы» і двух знізу, або пазменна адзін на адзін. Тартак быў прыватны ў Кляшчэлях у Радзікоўскага, але здзелка дарагавата каштавала. Таму сяляне рашылі эканоміць і пілавалі самі. Гравій на фундамент падвозілі ўласнымі фурманкамі. Цэмент куплялі за грошы са складчыны. Цесляром пры святліцы працаваў Раман Явімюк з чыгуначнай Чаромхі, ураджэнец Долбізна. Пабудова доўжылася каля двух гадоў. І была ўвенчана «будаўнічай кветкай» на шчытавой сцяне пры канцы 1952 года. Кузаўскую супольнасць у той перыяд прадстаўляў солтыс Рыгор Раманчук сын Блажэя — талковы мужык. Быў ён дапытлівы і строгі ў падыманні рашэнняў. У 1952 годзе пачыналася электрыфікацыя сёл. Перш-наперш электрыфікавалі тыя вёскі, у якіх працавалі сельскагаспадарчыя кааператывы. Але ў Кузаве яго не было. Тады солтыс у павеце грукнуў кулаком у стол і сказаў: «Калгаса няма, але святло мусіць быць». Як сказаў, так і зрабілі. Солтыс не падвёў сялян, але аб гэтым у наступным допісе.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

**Рэдакцыя «Нівы» віншуе ўсіх настаўнікаў і вучняў з новым 2019/2020 навучальным годам. Жадаем Вам настаўніцкай радасці ад сваёй працы і вучнёўскага задавальнення ад атрыманых ведаў. Спадзяемся, што цягам году «Ніва» з «Зоркай» будуць таксама Вашымі сябрамі ў школе і дома.**

***Рэдакцыя***

# Шчучын з-пад Граева і Шчучын з-пад Гародні

**АДНА НАЗВА — СУПОЛЬНЫЯ МЭТЫ**

**Адзін Шчучын — на мяжы Падляшскага і Вармінска-Мазурскага ваяводстваў, другі — пяцьдзясят кіламетраў ад Гародні. Аднайменныя гарады спалучае больш, чым назва. Аб гэтым «Ніва» размаўляе з бургамістрам польскага Шчучына Артурам Кучынскім.**





**— Зараз вашы гміны спалучае трансгранічны праект «Польшча-Беларусь-Украіна 2014-2020», якога з'яўляецеся лідарам і які атрымаў звыш за двухмільённы грант. А што дагэтуль апрача назвы спалучала беларускі і польскі Шчучын?**

— На самой справе нашы гміны супрацоўнічаюць з сабою ўжо больш за дваццаць гадоў. Тады ўпершыню наведаў нас калектыў «Прамень», які тады дзейнічаў пры Польскім доме. Ён прыязджаў да нас шмат гадоў, але з 2002 года неяк так натуральна супрацоўніцтва перапынілася. Аднак ужо з 2011 года мы нанава пачалі ладзіць кантакты з беларускім Шчучынам. Выглядала гэта так, што я са сваімі супрацоўнікамі нанеслі візіт мэру Шчучына і тады абмяркавалі планы, якія варта было б разам рэалізаваць. Калі з'явілася магчымасць фінансавання, у тым ліку і нашых праектаў, з'явілася яшчэ больш работы. Тады далучыўся да нас таксама горад Ковель на Украіне.

**— Менавіта 14 чэрвеня ва ўкраінскім Ковелі прайшла інаўгурацыйная канферэнцыя, прысвечаная рэалізацыі трансгранічнага праекта. Наколькі з беларускім Шчучынам вы раней супрацоўнічалі, Ковель, здаецца, зусім новы партнёр.**

— Так, але паколькі нас, Шчучыны, спалучала культурнае супрацоўніцтва і калі мы пашырылі наш праект на горад Ковель, таксама і тут улічылі перш за ўсё культурны абмен. У кожным з гарадоў хочам стварыць цэнтры трансгранічнага дыялогу культур — такія месцы, у якіх будуць маглі развівацца рознага тыпу віды актыўнасці: ад спартыўнай па культурную — выступы, паказы, выстаўкі...

**— Праект кладзе націск на культурную адметнасць, ці наадварот, блізкасць?**

— Так папраўдзе то ўжо можна знайсці між намі шмат супольнага. Па-першае, гэта сардэчнасць! Сапраўды, з самага пачатку мы ў беларускім Шчучыне адчуваем сябе як дома. Нас вельмі цёпла прымаюць і спадзяюся, што нашы сябры з Беларусі таксама добра сябе адчуваюць у нас. Магу сказаць, што гэта не былі толькі візіты ветлівасці. Сапраўды, мы сябе наведваем пры шматлікіх нагодах. Вось літаральна зараз еду ў Шчучын, каб удзельнічаць у святкаванні 80-гадовага юбілею шчучынскага аэрадрома. Едзем па запрашэнні мэра Шчучына, каб паказаць, што не цікавіць нас толькі сам праект, але сапраўды залежыць нам на кантактах з беларускім бокам і ў сувязі з гэтым сапраўды шмат чаго робім. Два месяцы таму чатырнаццаць матацыклістаў наведала Шчучын у рамках рэйду «Польска-Беларусь-Украіна». Я таксама матацыкліст, прымаў удзел у рэйдзе, але я ўжо бываў у Беларусі. Былі са мной асобы, якія ўпершыню наведалі гэтую краіну. Паехалі пабачыць, як яна выглядае. Мяне вельмі цешыць, што апошнім часам пашыралася бязвізавая зона. На маю думку межы, як палякам, так і беларусам, перашкаджаюць.

**— Ваша гміна з'яўляецца лідарам трансгранічнага праекта. Вы моцна падкрэсліваеце, што яго мэтай з'яўляецца не толькі пабудова або абнаўленне аб'ектаў, але перш за ўсё наладжванне супрацоўніцтва, своеасаблівы «дыялог культур», накіраваны на развіццё трансгранічнага турызму, культурны абмен, сяброўства і выпрацоўка сумеснай канцэпцыі далейшага супрацоўніцтва.**

— У рамках праекта будзем не толькі будаваць цэнтры культуры, але таксама маем запланаваны вельмі шырокі культурны трансгранічны абмен. Па-першае, узнікнуць будынкі. Кожны з гарадоў хоча адрамантаваць знішчаныя стадыёны. Таксама пішам стратэгію развіцця. Думаем, што яшчэ можам разам зрабіць, як выкарыстаць патэнцыял гэтых асяродкаў і нашых кантактаў, як тыя кантакты пашырыць на новыя. Яшчэ на этапе рамонту, будовы цэнтраў, маем сарганізаваць выезды груп не меншых чым па пяцьдзясят чалавек. Пяцьдзясят асоб едзе з Ковеля да нас, ад нас у Ковель, са Шчучына ў Польшчу і г.д. Хачу падкрэсліць, што гэта не будуць выпадковыя асобы, але такія, якіх прысутнасць паўплывае на новыя ідэі і планы. Спадзяюся, што зараз паедуць у тыя гарады нашы футбольныя каманды, фальклорныя гурты. Перш за ўсё хочам прэзентаваць нашу культуру. Нас з беларускім Шчучынам яшчэ спалучае і гэта, што таксама маем кляштар ордэна піяраў. У нас ён зараз уласнасць парафіі. Не так даўно нашай гміне ўдалося завершыць рамонт і ў верасні плануем урачыстае адкрыццё кляштарнага ансамбля, на якім, разлічваем, прысутная будзе і дэлегацыя са Шчучына.

**— Хачу яшчэ вярнуцца да пачатку нашай размовы. Вы сказалі, што шчучынска-шчучынскае сяброўства пачалося з візітаў прадстаўнікоў беларускай палоніі. Ці праект таксама прадбачвае падтрымку палякаў у беларускім Шчучыне?**

— Я свядомы праблем, з якімі сутыкаюцца арганізацыі, якія павінны культываваць польскую культуру ў Беларусі. Тыя арганізацыі зараз з намі не кантактуюць, а шкада. Калі існаваў Дом польскі ў Шчучыне, тады яшчэ існаваў абмен між нашымі гмінамі абмен. Часта сустракаем людзей, якія гавораць, што яны адчуваюць сябе палякамі, размаўляюць з намі па-польску і нам залежыць, каб тую польскасць таксама паказаць у нас. Усё-такі, гэта не самы важны напрамак дзейнасці. Праект робіць стаўку на беларускасць і суіснуючую польскую культуру. І таксама не ідзе толькі пра гэта, каб палякі пазналі Беларусь, а беларусы Польшчу. Гэта можна было б зрабіць і без вялікага праекта і пабудовы цэнтраў. Хочам больш, хочам пастаянных кантактаў між намі. Мы, як гміна, супрацоўнічаем з рознымі гарадамі са шматлікіх краін. Трэба прызнацца, што супрацоўніцтва з беларускім Шчучынам сапраўды складаецца найлепш.

**— Мне, асобе з Падляшша, здаецца, што Ваш горад далёка ад польска-беларускай мяжы і таго культурнага кантэксту. Тым часам больш за двухмільённы грант на супрацоўніцтва і, як Вы сказалі, шматгадовае супрацоўніцтва з Беларуссю.**

— Не ведаю, нам у Беларусь блізка (*смех*). Колькі ў Шчучын? Ад нас каля ста кіламетраў. Вось, за хвіліну сядаю ў машыну і ў Шчучыне буду пад вечар. Гэта ніякая адлегласць! На маю думку, малыя супольнасці, а наш Шчучын не такі ўжо вялікі, маюць нейкую аўтэнтычнасць і непасрэднасць, таму варта трымацца разам.

**— Можа Вы цікавіліся этымалогіяй назваў абодвух гарадоў?**

— Так, мы гэта даследавалі. Польскі Шчучын узяў сваю назву ад заснавальніка горада — Шчукі. Калі гаварыць пра беларускі Шчучын, мы чулі два варыянты. Першы гаворыць, што горад узяў сваю назву ад слова «шчаўе», але таксама існуе варыянт, што ад слова «шчупак». Ну, мы яшчэ не дайшлі, які варыянт сапраўдны (*смех*).

**— Праз які памежны пераход будзеце зараз перасякаць мяжу?**

— Мы заўсёды ездзім на Кузніцу.

**— Тады жадаю невялікіх чэргаў на мяжы і прыемнай пабыўкі. Дзякую за размову.**

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Мае новыя кнігі — „Поўня» Міхала Андрасюка і паэзія Надзеі Артымовіч



Фота Паўла Гросі



Нядаўна мой сын наведаў рэдакцыю «Нівы» і галоўны рэдактар нашай пачэснай газеты сп. Яўген Вапа падараваў яму дзве кніжкі: «Поўню» Міхала Андрасюка і «Краявід з невідочнай памылкай» Надзеі Артымовіч. Гэтыя дзве кніжкі прачытаў я за няцэлы тыдзень і хачу падзяліцца сваімі ўражаннямі, «ацэнкай» і рэфлексіямі наконт прачытаных твораў.

Хачу адразу сказаць, што чытанне і форма ды стыль гэтых кніжак даволі складаныя і нялёгкія, але даволі цікавыя і павучальныя і чамусьці вучыць — як мы павінны жыць і не тварыць ракавых памылак. Вершы Н. Артымовіч падобныя ў нечым да вершаў слыннай Шымборскай (лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі). Тут мы заходзім у глыбіню, шырыню вышыню нашага жыццёвага маестата-вялікасці і зведваем, што значыць слова: чалавек — Божае тварэнне. У вершах Артымовіч няма ні аднаго лішняга слова і яно — слова — наш павучальны і жыццёвы запавет. І ў гэтай невялікай кніжцы на левай старонцы — пераклад кожнага верша на польскую мову, які зрабіў перакладчык Марцін Рэмбач. І яшчэ раз паўтараю: у вершах Н. Артымовіч багацце думак, наша ўскосная і родная гісторыя, родная мова і любоў да яе. І гэта свайго роду алегорыя, як твор Міхала Андрасюка.

І такой аповесці як «Поўня» я яшчэ дагэтуль не чытаў. Яна ў нечым падобна да твораў Фёдара Дастаеўскага, хаця ў іншым дыяпазоне, стылю, гісторыі і часе. Тут мы знаходзім колішняе прошлае і нядаўняе прошлае, і сённяшняе, і нават свайго роду будучыню. І тут аўтар-мастак (бо так можна яго і назваць) адважна і смела дае сапраўдныя назвы сваіх мясцін і ўрочышч. Тут мы знойдзем, і то не раз, назву яго роднай вёскі Войнаўкі, а таксама суседніх вёсак: Старыны, Доўгага Броду, Вілюкоў, Малых Пасечнікаў, а нават Палічнай ды іншых мясцін. І на думку прыходзіць, што менавіта тут, каля Белавежскай пушчы, адбыліся апісаныя ім гэтыя цікавыя гісторыі і падзеі. Так, гэта алегорыя, а нават свайго роду прытча. І тут таксама кожнае слова мае залатую вагу і цэннасць. І тут чувацъ найбольш водгуку метафары, якую трэба нейкім спосабам і зразумець, і над такой кніжкай варта прысвяціць нямала часу, увагі і зразумення. У аўтара многа персанажаў, а таксама іх лёсаў і падзей з іх жыцця. І яны адбываюцца найчасцей на радзіме пісьменніка. Хаця не ўсе, бо ўзяць пад увагу хаця б Юлію недзе з Мардвы. Мо гэта вобраз нейкай беларускі, якая забыла родную беларускую мову і стала чырыкаць па-руску? Хто ведае? А ёсць і іншая Юлія з цыганскага табару, якая не можа аўтару-герою чагосьці адгадаць пра прычыне сваёй маладосці. І ў сапраўднасці былі такія персанажы. І сам цыганскі табар-абоз, які штогод наведваў прыпушчанскія вёскі, а яго кіраўніком быў Пэтро. Дык я сам помню, што калісьці цыганы сапраўды да нас прыязджалі, цыганкі варажылі на картах і хітра маглі ўкрасці некалькі курак. Бо гэта быў іх абычай і «культура». Сёння гэтага ўжо няма, мо і шкада. Альбо вось бабнік Ніканор у час сенакосу намовіў мясцовую Пэлю да «рамяства», вядомага ад тысячы гадоў і стасаванага на практыцы. І ў час гэтага кахання Пэля ад захаплення енчыла, пасля моцна застагнала. Бо Ніканорчыха заспела іх на гарачым учынку ды, відаць, трэснула па галаве Пэлі чымсьці цяжкім, і дала ім чосу колькі ўлезе. А аўтар-хлапчук усё гэта назіраў з-пад хмызнякоў. Але яго прыкмецілі і строга прыказалі: ані слова пра гэта нікому. Бо ж гэта ганьба і сорам для сям'і. І ён слова стрымаў. Ёсць і гісторыя, што ў нейкай прыпушчанскай вёсцы калісьці громам забіла маладую жанчыну. Засталіся сіроткамі малалетнія дзеці і адну з іх, Надзю, прыюціла ў нас родная цётка Вера з мужам Мікалаем Тамашуком. Надзя стала для іх як родная дачка і называлі яе ў вёсцы гадаванкай. Цяпер Надзя ўжо ўдава, яе дзеці ў Беластоку не цураюцца роднай беларускай мовы... У апошнім раздзеле «Поўні» чытаем пра матч і яго ўдзельнікаў — уначы аўтар сустракае сваіх даўно памерлых сябрукоў. І гэта метафара і праўда, што мы не павінны забываць мінулае і сваіх верных сяброў.

Мікалай ПАНФІЛЮК




## Арлоў, Артымовіч, Мартысевіч: абвешчаны шорт-ліст прэміі Арсенневай

Журы прэміі Наталлі Арсенневай вызначылася з кароткім спісам прэтэндэнтаў на ўзнагароду. У яго ўвайшлі 3 кнігі.

Уладзімер Арлоў „Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань". Выдавецтва „Кнігазбор", Мінск.

Надзея Артымовіч „Краявід з невідочнай памылкай". Выдавецтва „Праграмная рада тыднёвіка «Ніва»", Беласток.

Марыя Мартысевіч „Сарматыя". Выдавецтва „Янушкевіч", Мінск.

Цырымонія ўзнагароджання, на якой будзе названы пераможца прэміі, адбудзецца 10 верасня а 19.00 у кафэ „Грай" (вул. Інтэрнацыянальная, 33). Прыз за найлепшую паэтычную кнігу сёлета складае 4000 беларускіх рублёў.

У склад журы прэміі сёлета ўвайшлі паэт і загадчык літаратурнага музея Максіма Багдановіча Міхаіл Бараноўскі, паэтка, перакладчыца і літаратуразнаўца Марыяна Кіяноўская, літаратуразнаўца і доктар філалагічных навук Анжэла Мельнікава, паэтка і бард Лера Сом, паэт і арганізатар літаратурных мерапрыемстваў Дзмітрый Строцаў.

Арганізатары прэміі — Беларускі ПЭН-цэнтр, ГА „Саюз беларускіх пісьменнікаў" і Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына". Узнагарода ўручаецца пры падтрымцы Фонда культуры і адукацыі Орса-Рамана і Харытатыўнага фонда Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі.

Прэмія заснаваная ў гонар беларускай паэткі Наталлі Арсенневай (1903—1997) у 2017 годзе і ўручаецца за найлепшую паэтычную кнігу на беларускай мове. Першым лаўрэатам прэміі стаў Уладзімір Някляеў за зборнік паэзіі „Толькі вершы", другім — Алесь Разанаў з кнігай „Перавыбранае". www.lit-bel.org

## Абвешчаны шорт-ліст Прэміі Гедройца

Сябры журы Прэміі Гедройца вызначылі кароткі спіс прэтэндэнтаў на сёлетнюю прэмію. У яго ўвайшлі 6 кніг:

1. Міхал Андрасюк. Поўня. — Беласток: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
2. Алена Брава. Садомская яблыня. — Мінск: Галіяфы.
3. Сяргей Календа. Часам панкі паміраюць. — Вільня: Логвінаў.
4. Ілля Сін. Libido. — Мінск: Кнігазбор.
5. Юлія Шарова. Вяртанне Ліліт. — Мінск: Янушкевіч.
6. Сяргей Шупа. Падарожжа ў БНР. — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода.

Склад журы Прэміі Гедройца: Максім Жбанкоў, культуролаг, крытык, эсэіст; Жана Капуста, літаратурны крытык, літаратуразнаўца; Марыя Мартысевіч, паэтка, перакладчыца, арганізатарка культурніцкіх праектаў; Анжэла Мельнікава, літаратуразнаўца; Алесь Пашкевіч, празаік, літаратуразнаўца, першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменікаў; Ганна Севярынец, празаік, архівіст, літаратуразнаўца, настаўніца.

Прэмія імя Ежы Гедройца заснаваная Беларускім ПЭН-Цэнтрам, Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Польскім Інстытутам у Мінску і ўручаецца за найлепшую кнігу ў жанры мастацкай і дакументальнай прозы. Узнагарода мае статус галоўнай незалежнай літаратурнай прэміі Беларусі. Папярэднія пераможцы: Павал Касцюкевіч, „Зборная РБ па неталоўных відах спорту" (2012), Уладзімір Някляеў, „Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без" (2013), Ігар Бабкоў, „Хвілінка: Тры гісторыі" (2014), Віктар Казько, „Час збіраць косці" (2015), Макс Шчур, „Завяршыць гештальт" (2016), Зміцер Бартосік, „Быў у пана верабейка гаварушчы" (2017), Уладзімір Арлоў, „Танцы над горадам" (2018).

Сёлета ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання адбудзецца 25 верасня ў прасторы ZAL#2, што ў менскім Палацы мастацтваў. Пачатак цырымоніі — а 19:00. www.lit-bel.org

## Прыгожыя лавачкі

Зараз многія жыхары Гайнаўкі а перш-наперш у пенсіённым узросце ходзяць з малымі дзяцьмі, а некаторыя то і з сабачкамі на шпацыр у гарадскі парк, на лавачкі на скверыках. У Гайнаўцы лавачак шмат. Пра гэта паклапаціліся гарадскія ўлады. Некаторыя лавачкі знаходзяцца пад дашкамі-навесамі. Тады і ў праліўны дождж ёсць дзе схавацца ад яго.

Прыгожыя драўляныя (гэта важна, яны прыязныя чалавеку) карычневага колеру лавачкі стаяць на вуліцах 3 Мая, Пілсудскага, Баторыя, кс. Верабея, Ліпавай, Ракавецкага і на іншых. На іх можна пасядзець у цяністым парку, на скверыках пры вуліцы 3 Мая, ды ля скрыжавання з кругавой развязкай вуліц 3 Мая, Варшаўскай, Паркаваай і кс. Верабея.

Лавачкамі часта карыстаюцца старэйшыя людзі. Ідучы хутка пажылыя людзі стамляюцца ды прысядуць, каб хаця крыху адпачыць. Лавачкі на вуліцах патрэбныя. На іх ахвотныя пасядзець і малыя дзеці. На вольнай лавачцы, а не на тратуары, можна паставіць цяжкія сумкі і пакеты з пакупкамі. **(яц)**

Міра ЛУКША

## На вуліцы Заменгофа

Ідзе бамбіза пасярод Заменгофа вуліцы.
Насупраць пешаходка да слізкага тратуару туліцца.
На доўгім павадку бамбіза аўчарку трымае.
Бамбіза з сабакам ушыр тратуар цалюткі займае.
Побач гурбы салёнага снегу на газоне высяцца.
Нават сабаку на іх нявыгадна высцацца.
Дайшла пешаходка да парачкі і нідзе не аступіцца,
Не ўзлезе на гурбы, а перад ёю псіная морда слініцца.
Правым бокам цётка ідзе, па ўсіх правілах.
А пара насустрач на яе свае пысы наставіла.
– Ты куды, к-ва, лезеш, не бачыш, што ідзе тут сабака?! –
Зароў сабакар і канцом шнурка махнуў на небараку.
Паперлі. Кабета хацела вярнуцца за ім ды добра аблаяць.
Але магла б і ў морду дастаць ды яшчэ і пакаяцца.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Пачынаем новы год!




Увага! Пачынаем новы навучальны год! Пасля доўгага перапынку і цёплых дзён мы зноў сустрэліся на школьных калідорах. Наперадзе дзесяць месяцаў навукі, але Вы, чытачы «Зоркі», думайце пра гэты час як пра перыяд цёплых сяброўскіх сустрэч, амбітных выклікаў, новых ведаў, экскурсій і гульняў. Зараз атрымаеце новыя падручнікі поўныя цікавых здымкаў і карыснай інфармацыі. Вашы настаўнікі — прамяністыя пасля адпачынку, а надвор'е надалей летняе. Чаго хацець больш!? Калі з такім настроем увойдзеце ў новы навучальны год, паверце, не будзеце ўжо з такім нецярпеннем чакаць яго завяршэння.

А ў Непублічнай пачатковай школе ў Залуках спадарыні Валя Паплаўская і Марыя Мойсак сумесна з дзецьмі і моладдзю адкрылі новы 2019/2020 навучальны год. Менавіта ў гэтым годзе мінае васьмідзясятая гадавіна пачатку Другой сусветнай вайны. У школе ў Залуках прайшла акцыя «Спынены марш...», у якой прынялі ўдзел пенсіянеры, якім вайна спыніла адукацыю ў верасні 1939 года. Спадарыні Валя і Марыя атрымалі кветкі, а таксама па-беларуску расказвалі пра сваё мінулае. Іхняй цеплыні і шчырасці не перадасць наймудрэй складзены падручнік. Таму можа часам варта ў рамках дамашняй работы проста паразмаўляць з бабулямі?

*Тэкст і фота Улі Шубзды*

# Летнік у Супраслі



У перыяд з 7 па 13 ліпеня 2019 года ў Супраслі адбыўся шахматна-спартыўны летнік. Падчас летніка мы карысталіся памяшканнямі Супрасльскай акадэміі. Кожны дзень план летніка пачынаўся са Святой Літургіі ў галоўнай царкве манастыра Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы ў Супраслі. Падчас службы мы маглі званіць на званіцы, хлопцы прыслугоўваць у алтары, а дзяўчаты — спяваць на клірасе.

Дзеці былі вельмі задаволеныя. У нас былі шахматныя і спартыўныя заняткі ў дзвюх групах. Адна група мела спартыўныя заняткі, другая ў той самы час была на шахматных занятках, а пасля кароткага перапынку была змена. Спартыўныя заняткі адбываліся ў спартыўнай зале альбо на вуліцы. Шахматныя заняткі адбываліся ў бібліятэцы і былі вельмі цікавымі. Дзеці таксама самі рабілі пакупкі ў манастырскай і ў суседняй крамах. Вельмі цікавай была наша сустрэча з манахам Панцеляймонам, былі мы таксама і ў Музеі ікон. У другой палове летніка ў сераду мы ездзілі на экскурсію ў Беласток на трампліны ў „Зоне высокіх палётаў". Кожны дзень мы заканчвалі сумеснымі вячэрнімі малітвамі. Нам было вельмі прыемна адпачываць побач з манастыром і Кнышынскай пушчай сярод праваслаўных дзяцей.

Арганізатарам летніка быў Фонд „Айканомас" з Беластока, узначалены айцом Дар'юшам Юзвікам і выхавацелькамі пані Аняй і пані Эляй, якім мы вельмі дзякуем за праведзены разам час.

**Ян і Кацярына КАНАХОВІЧ, Люблін**

## УВАГА КОНКУРС!
## № 36-19

**На даху сядзіць і люльку дыміць..**

**(К....)**

Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 23 верасня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 32:падушка. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Магда Якубюк і Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# «Лета з традыцыяй» у Студзіводах

Уперыяд з 13 па 20 ліпеня 2019 года ў Студзіводах адбыўся летнік пад назваю „Этнаграфічныя майстэрні — Беларускае лета з традыцыяй". У адпачынку ўдзельнічала 40 дзяцей з Бельска-Падляшскага і наваколля ды з Варшавы, Любліна, Ольштына і Гданьска. Мы ўдзельнічалі ў шматлікіх майстар-класах, такіх як тканне на кроснах, малюнак на шкле і на тканіне, ганчарская справа, шылі торбачкі, плялі кошыкі, а таксама рабілі лялькі з саломы. Усе рэчы, якія мы зрабілі сваімі рукамі, можна было ўзяць з сабою на памяць. Кожны дзень зранку ў нас былі заняткі. Абедалі мы ў асеці. А ў нядзелю пасля абеду мы сустрэліся з бацькамі на сумесным вогнішчы і танцах у асеці.

Падчас летніка заўжды пасля абеду дзеці спявалі па-свойму, альбо маглі граць на інструментах нашы песні. Я быў вельмі задаволены, калі разам з панам Дарафеем мы маглі граць на акардэонах, а мая сястра Кася грала на скрыпцы з паняй Аняй. Дзеці заўсёды аддавалі мабільныя тэлефоны і адчувалі сябе вельмі бяспечнымі. Яны вучыліся альбо размаўлялі па-свойму. Удзельнікі былі вельмі задаволены і мелі час таксама на сумесныя гульні.

У сераду 10 ліпеня адбылася экскурсія ў Пасынкі, дзе мы наведалі царкву святога Іаана Хрысціцеля. Потым мы паехалі да святых крынічак у Мякішах, дзе дзеці набіралі свянцоную ваду. Пазней мы паехалі на вогнішча ў Мякішах, пасля якога дзеці хадзілі па вёсцы, спявалі і танчылі.

Летнік закончыўся ў суботу 20 ліпеня выставай зробленых на майстар-класах прадметаў, раздачай узнагарод і канцэртам розных гуртоў. Завяршэннем усяго быў пераход на поле, дзе адбыўся ўрачысты пакос збожжа.

Арганізатарам „Этнаграфічных майстэрняў" быў Музей малой айчыны ў Студзіводах, які ўзначальваюць пан Дарафей і пані Аня Фіёнік, якім мы вельмі дзякуем за праведзены разам час.

**Ян Канаховіч**
Люблін



# Сустрачанскі апытальнік

**Кастусь Целушэцкі** — пенсіянер, народны паэт з Новага Ляўкова.



**1. Сустрэчы «Зоркі» для Вас гэта:**

— Новыя чытачы.

**2. Любімае слова на беларускай мове:**

— „Мама"

**3. Найпрыгажэйшае месца на свеце:**

— Паканева, дзе езджу на рыбалку.

**4. Галоўнае правіла народнага паэта:**

— Трапна падабраць тэму.

**5. Што Вас стамляе?**

— Чаканне, калі зноў вырастуць грыбы.

**6. Што Вас натхняе:**

— Лес, рэчка, вершы вучняў з Нараўкі і Міхалова ў «Зорцы».

**Сільвія Грыка**, Міхалова.

## Айчына

Мая айчына гэта вёсачка,
Хмаркі і сонца на небе,
Лес, што шуміць,
Збожжа, якое ў полі стаіць.
Айчына гэта мая хата і школа,
І ўсё навокал,
Дарога за домам,
і сцяжынка да хаты.
Айчына жыве ў кожным дрэве,
У маленькай раслінцы і кусціку,
У лісточку, якім вецер гуляе,
Нават у кветках, якія спаткаем.
Айчына гэта мова,
Якую мы з дзіцячых гадоў
вывучаем,
І цэлым сэрцам яе любім, кахаем!

# Польска-беларуская крыжаванка № 36-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 32-2019:**

Песня, пуп, мука, Об, мята, аса, воз, жарт, рута, тунец, абы, гарох. Пах, мора, зуб, ты, рута, карта, СПА, тут, но, поспех, баец.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** і **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Rożno | Konar | | | | | |
| Miód / Jogurt | | Odlot Ptaków | | Ganek | | Skarb / Cham | | | |
| Uwaga | | | | | | Znak | Och! | Bo | |
| | | | | | | | | | Ania |
| Krzyżodziób / Tron | | | | | Nasz | | Sok | | Ryt |
| | Trzy / Ananas | | | | | | | Si | |
| | | | Kokosy | | | | | | |
| | Raj | | | | | Wieloryb | | | |



# Каб не тыя людзі...




Вера МАСАЙЛА
*Гайнаўка*

Асобы:
1) **Я.** — Янка
2) **Н.** — Насця, нарачоная Янкі
3) **М.** — маці Насці, удава
4) **Р.** — райчыня — сваячка Янкі, цётка Нюра
5) **С.** — маці Янкі, нядошлая сванька маці Насці
6) **Б.** — бацька Янкі
7) Гарманіст

### Сцэна I *(Допыты)*

**М.:** — Добры дзень, цётка Нюра. А вы што так босыя ідзяце, ног вам не шкада? Чаму басанож ідзяце?

**Р.:** — Добры дзень. Не люблю абутаю хадзіць.

**М.:** — А боты навошта пад рукою?

**Р.:** — Няўжо не знаеце — каб людзі не сказалі, што я бяднячка... Дарэчы, добра, што цябе спаткала. Хачу табе, удавіцы, настроіць добрага зяця: багатага, слаўнага — нашага сваяка з Карыціск.

**М.:** — А адкуль то вы ў райка забаўляецеся? Ды нашай Насці толькі шаснаццаць гадоў! Не зарана?

**Р.:** — Не райком, а найлепшай пад сонцам райчыняй хачу табе быць. Знаеш, які гонар аддаць дачку замуж у шаснаццаць гадоў? Усе табе будуць зайздросціць такога шчасця... А як не дай Божа пастарэе дзеўкай — тады скажаш: аддала б і за вала, каб толькі дзеўкай не была!..

**М.:** — Ну так некаторыя кажуць...

**Р.:** — То што, можа Сцёпа вечарком у суботу прыехаць да Насці ў сваты? Лепш, каб ніхто не бачыў, бо ўсяляк потым бывае.

**М.:** — Бачу, што гэта прафесійныя допыты.

**Р.:** — Ужо хутка Дзмітра, а толькі да Дзмітра дзеўка хітра, бо па Дзмітры дзеўкаю на чатыры літары вытры.

**М.:** — Няхай вам ужо будзе. Ідзем дахаты, раскажаце дэталёва пра хлопца, яго сям'ю, гаспадарку. Запрашаю! Калі ласка.

**Р.:** — Дзякую.

### Сцэна II *(Спатканне нарачоных)*

**Я.:** — Я бачу, каханая, што ў цябе турбота. Я чуў, што ў цябе былі сваты.

**Н.:** — А каб яны праваліліся, былі! Прыехаў вечарком Сцяпан з Карыціск з маршалкам і пытаюцца, ці ў нас цялушка прадаецца, бо яны якраз хочуць купіць.

**Я.:** — Так сапраўды было?

**Н.:** — Было! Ды я гэтага не сцярпела і кажу ім, што я не карова і не хачу слухаць такіх дурнот, ды маці так на мяне глянула, што я замоўкла і пайшла прыбіраць пакой.

**Я.:** — А яны напэўна, выпіўшы літар гарэлкі, хвалілі цябе, якая ты прыгожая, здаровая, чырвоная і будзе каму рабіць у полі і каля жывёлы.

**Н.:** — Так сапраўды гаварылі! *(хістае галавой)*

**Я.:** — А што з тваімі пачуццямі?

**Н.:** — Аб гэтым ніхто не гаварыў. Маці кажа, што я маладая і дурная, а яна знае, што для мяне найлепшае.

**Я.:** — Пэўна, кажа, што будзеш гаспадыняй на ўчастку поля. Народзіш дзетак і пра дурное каханне забудзеш. Не так?

**Н.:** — Дакладна так. Дагаварыліся з мамай на розгляды...

**Я.:** — А што будзе з намі? Я павінен штосьці зрабіць, мушу! І я зраблю допыты пра Сцяпана.

### Сцэна III *(Да маці Насці прыходзіць Янка, потым цётка Нюра)*

**М.:** — Насці няма дома, чаго ты прыйшоў?

**Я.:** — Добры дзень вам. Добра, што яе няма. Я да вас, прабачце, будучая цешча.

**М.:** — Да мяне? А што ты хочаш ад старой бабы.

**Я.:** — Якія вы там старыя. Прашу вас, малю: не аддавайце Насці замуж за гэтага Карытляніцу.

**М.:** — А то чаму?

**Я.:** — Яму ж каля саракоўкі! Вы хутчэй узростам пасавалі б яму на жонку, чым ваша дачка!

**М.:** — Будзе шанаваць маладую.

**Я.:** — Хутчэй не будзе, як будзе. Ён, як мне казалі — так як і яго бацька — лянівы дармаед. Толькі чужымі рукамі заграбаў бы попел. А я так Насцю кахаю, думаю, што з узаемнасцю. Паслухайце мяне, прашу!

**Р.:** — Добры дзень. Добра, што вас абое бачу. Хачу прасіць у вас прабачэння. Хачу расказаць вам тым разам праўду пра Карытляніцу Сцяпана і яго бацькоў. Далі мне яны кручок гарэлкі і дзве прагнілыя грушкі, каб я падказала ім на нявестку добрую, працавітую дзяўчыну з чужой вёскі.

**Я.:** — У сваёй усе іх добра знаюць.

**Р.:** — А як! А я, дурная, выпіўшы чарку самагонкі, палакомілася на нішто і ледзь вас у пропасць не запхнула. Яны ж лянуюцца курку на яйках пасадзіць, нават на розглядах яечня была з яек пазычаных у суседкі.

**Я.:** — Людзі гаварылі, што Сцёпа ў сваты прыязджаў пазычаным жарабцом, а пазычаныя пад розгляды каровы ніяк не хоча аддаць суседзям, кажа, што аддасць пасля вяселля, каб вы раней не разабраліся, у чым справа.

**Р.:** — Сапраўды, так людзі гавораць. Каб я з гэтага месца не паварушылася, калі няпраўду кажу!

**М.:** — Тады, цётка Нюра, вы хвалілі, цяпер ганіце. Я ж была ў розглядах і на заўтра запрасіла бацькоў Сцёпы да мяне ў лады. Думала — зраблю гасціну. Запрашу сваякоў — а цяпер сама не знаю што і думаць...

**Р.:** — Хадзіце на панадворак, больш раскажу, з хвалявання задыхаюся.

### Сцэна IV *(Лады)*

**С. і Б.:** — Добры вечар!

**С.:** — Вазьміце, сванька, ад нас гасцінец. Нікога вы не запрасілі на лады? Не маеце чым прыняць...

**М.:** — Каму добры, таму добры — мне дрэнны. Я, хаця ўдавіца, каго хачу маю чым угасціць і без вашага гасцінца. Забірайце яго.

**С.:** — Не злуйце, сванька. Са скуры вас не абдзярэм.

**Б.:** — Дайце ў пасаг толькі адну карову і дзве тысячы грошай пад вяселле...

**С.:** — Поля мы не хочам — свайго хапае.

**М.:** — Знаю — аблагом ляжыць. Каровы вам не дамо, бо замнога было б Насці даіць з вашымі трыма каровамі пазычанымі ад суседзяў пад розгляды, а грошай таксама не дамо, бо вяселля ніякага не будзе!

**С.:** — Як гэта? Растрасаеце на ладах вяселле?

**М.:** — Вельмі проста. Растрасаю! Няхай ваш Сцёпа шукае такой багатай і маладой як сам. Я нешта чула пра вас, потым спраўдзіла — усё згаджаецца. Ваш сын у сваты прыехаў у пазычаным касцюме і пазычаным жарабцом. На розгляды прывёў тры пазычаныя каровы. Хопіць, ці гаварыць далей?

**С.:** — Як хочаце...

**М.:** — Наша Насця не прывыкшы да такіх брыдкіх хітрасцей і не хачу каб прывыкала.

**Н.:** — *(уваходзіць з другога пакоя)* Дарэмнага парабка ўбачылі ўва мне, працавітай дзяўчыне, і нават заплацілі цётцы Нюры, а потым так ёй залезлі за скуру, што сама прыйшла вас ганіць!

**С.:** — Тфу! — з такой нявесткай!

**Б.:** — І так скажам, што Сцёпа раздумаўся жаніцца з бабінаю дачкою, а не вы растрэслі вяселле...

**М.:** — Кажыце што хочаце. Праўда заўсёды апраўдаецца, а вашы хлусні бокам вам вылезуць!

**Б.:** — Едзем, жонка, мо дзе бяднейшую і менш гарластую нявестку знойдзем.

**М.:** — Жадаем поспехаў. Забірайце, мо там чары якія! *(кідае за адыходзячымі нядошлымі сватамі гасцінец завязаны ў белую хустку).*

### Сцэна V *(Планы Янкі і Насці на будучыню)*

*(Янка і Насця ідуць цераз сцэну трымаючыся за рукі і спяваюць песню «Толькі з табою», падыходзяць да маці Насці, якая вышывае макатку)*

**Н.:** — *(Абдымае маці і гаворыць)* Як цудоўна! Дзякую, мама, за такі абарот спраў. У нас ёсць планы.

**Я.:** — Слухайце! Мне вельмі хацелася б паехаць на Прусы — зарабіць грошай пад вяселле, там, кажуць, шмат добра платнай работы, а ў мяне дзве здаровыя рукі, галава таксама добра варыць.

**М.:** — Цікава гаворыш, слухаю далей...

**Я.:** — А дома чатыры браты і бацька, дадуць сабе рады без мяне. Вярнуся, як дасць Бог, ажанюся з Насцяй, дакупім зямелькі, пастаўлю хату. Можа, дачакаемся дзетак і будзем шчасліва з Насцяй жыць і абрабляць сваю зямельку ў роднай вёсцы. З Насцяй і толькі з каханай Насцяй. Калі благаслaverce нас, мама.

**М.:** — А чаму ж не?!

**Н.:** — А я хацела б, мама, паехаць, Янку дапамагчы. Дазволіце?

**М.:** — А ёсць выбар? Нездарма кажуць — можна пажыць і ў шалашы, каб толькі мілы па душы.

*(Маладыя танцуюць пры песні якую іграе Гарманіст «Толькі з табою» і хаваюцца за сцэнай). (перад кожнай сцэнай Гарманіст іграе беларускія мелодыі)*

*(перад IV і V сцэнамі перад гледачамі ходзіць жабрачка з мяшком на спіне).*



Вера РАДЗІВАНЮК
*Міхнаўка, Нараўчанская гміна*

## Спатканне

Хлопец ехаў на машыне
Спраўны, малады.
Ішла дарогаю дзяўчына,
Несла ў кошыку грыбы.
Хлопец стаў і запытаўся:
— Дзе ж тых іх набрала?
А дзяўчына засмяялась:
— У лесе ж назбірала!
Запытаўся, ці далёка
Дзеўчыне ісці,
Кошык цяжкі із грыбамі
Дадому нясці.
А дзяўчына адказала:
— Я прывыкшая хадзіць.
Яшчэ большыя цяжары
Мне прыходзіцца насіць.
Запытаўся, ці пазнала:
— Мы ж даўно знаёмы!
А дзяўчына засмяялась:
— Пазнала, вядома!
— Сядай цяпер у машыну,
Адвязу дадому!
Ці ж адкажа як прыгажуня
Хлопцу маладому!

## Успаміны

Гады так хутка бягуць —
Як у рэчцы вада...
Ніхто іх ужо
Не дагоніць ніколі.
Успаміны адны
Засталіся аб тым,
Што і я была
Калісь маладою.
Ногі неслі мяне маладыя,
Вецер у косах іграў,
А я любавалась вясною,
Зеленню свежай, духмянай.
Кукавала зязюлька
На белай бярозе.
А я пыталася, ці знае,
Колькі год пераж ыву...
Пранесліся годы-гадочкі,
Якіх немагчыма забыць,
Часта мне сніцца па начах,
Што зноў бягу я кудысь
Па зялёнай траве.
Але ж то толькі сон
І ўспаміны твае,
Што прыходзяць сягоння.

## Чаканне

У садочку пад ліпай
Лавачка стаяла.
Там дзяўчына маладая
Любага чакала.
Зыйшла зорка і другая
І месячык сходзіць.
Чаму любы мой, прыгожы,
Сёння не прыходзіць?
Можа, памыліў дарогу?
Можа, заблудзіўся?
Ці ў другую маладую
Дзеўчыну ўлюбіўся?
Як дарогу памыліў,
То яе ён знойдзе,
Як другую пакахаў,
Да мяне не зойдзе!..
Так дзяўчына маладая
У садочку стаяла,
З салавейкам, што спяваў
Ціха размаўляла...

# XVII Міжнародны пленэр разьбы па дрэве

Два гады таму аднавіўся ў Гайнаўцы Міжнародны пленэр разьбы па дрэве. Раней такія пленэры ладзіліся ў пушчанскім горадзе ў шасцідзясятых і сямідзясятых гадах мінулага стагоддзя. З 5 па 24 жніўня за будынкам Гайнаўскага дома культуры, пад велізарным дубам і старымі дрэвамі паспяхова прайшоў XVII Міжнародны пленэр разьбы па дрэве, якога вядучай тэмай была «Таямнічая Белавежская пушча — супольная спадчына славяншчыны». У час пленэру цікавыя скульптуры з дубу выканалі айчынныя рэзчыкі з Гайнаўкі, Беластока, Любліна і замежныя з Рэспублікі Беларусь — Аляксандр Лазерка з Брэстчыны і Мікола Скляр з Гродна. Аляксандр Лазерка два гады таму таксама выканаў дзве вялікія скульптуры з дубу. Завяршыўся пленэр 24 жніўня адкрыццём пленэрнай выставы скульптур на пляцоўцы каля будынка ГДК. Лепшыя скульптуры маюць быць пазней расстаўлены на турыстычных шляхах у Белавежскай пушчы, а астатнія будуць экспанавацца на тэрыторыі гарадскога парку ў Гайнаўцы. Скульптуры з папярэдніх пленэраў можна пабачыць у розных месцах сумежнага з пушчай горада.

Падвядзенне вынікаў XVII Міжнароднага пленэру разьбы па дрэве адбылося ў Гайнаўскім доме культуры. Скульптараў і прадстаўнікоў суарганізатараў і спонсараў пленэру прывітаў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, які коратка напомніў пра ход пленэру. Старшыня Рады горада Гайнаўка Валянціна Пятрочук падзякавала скульптарам за творчую працу і адзначыла важнасць ідэі аднаўлення міжнародных пленэраў разьбы па дрэве, якія расслаўляюць горад у краіне і замежжы. Старшыня Рады горада і дырэктар ГДК уручылі падарункі аўтарам узнагароджаных скульптур — Аляксандру Лазерку з Вістыч, Міколу Скляру з Гродна, Станіславу Асташэўскаму з Беластока і Віктару Кабацу з Гайнаўкі (апошняму падарунак будзе перададзены пазней, бо ў дадзены момант удзельнічаў ён ужо ў чарговым пленэры ў Вільні). Юры Івацік з Гайнаўкі і Данель Ліпіян-Канюк з Любліна атрымалі вылучэнні. Агнешка Ляскоўска-Гіншт з Гайнаўскага надлясніцтва паінфармавала, што на гайнаўскі пленэр мастакі з Рэспублікі Беларусь былі запрошаны невыпадкова, паколькі на яе тэрыторыі знаходзіцца большая частка Белавежскай пушчы, якая занесена ў спіс Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Удакладніла яна, што частка пленэрных прац будзе знаходзіцца на турыстычных шляхах трох надлясніцтваў. Сёлетні і мінулагодні камісар пленэру і заадно старшыня беластоцкага аддзялення Саюза польскіх мастакоў «Польскае выяўленчае мастацтва» Станіслаў Асташэўскі коратка распавёў пра ход і плён пленэру. Пасля сустрэчы ў памяшканні ГДК сабраныя перайшлі на панадворак дома культуры, дзе можна было пабачыць скульптуры і паразмаўляць пра мастацтва за кавай, гарбатай і салодкім пачастункам. На адкрыццё пленэрнай выставы прыбыло многа гайнавян, сярод якіх былі, між іншым, дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, гайнаўскія жывапісцы і скульптары.

Удзельнікаў амаль трохтыднёвага пленэру, арганізаванага бургамістрам Гайнаўкі, Гайнаўскім домам культуры і Гайнаўскім, Белавежскім і Броўскім надлясніцтвамі, сустрэў я на некалькі дзён да яго заканчэння. Побач старых дрэў стаялі і ляжалі выкананы з дубу скульптуры. Разьба па дубе, хаця больш складаная, вельмі трывалая і шыкарна прэзентуецца, асабліва на сонцы.

— Я вельмі люблю разьбярыць па дубе, паколькі апрацаваны дуб дазваляе паказаць намнога больш, чым скульптура выкананая на ліпе або іншай мяккай драўніне. Я канчаю вырэзваць з дубу тры працы — «Зялярку», «Уразьбу» і цюленя. Сёлетнія скульптуры перш за ўсё тычацца мінулага і прыроды. З 5 жніўня на пленэры займалася восем скульптараў. Сёлета праца ішла нам добра, паколькі паспрыяла надвор'е. Разьба па дубе патрабуе працы з пілой у руках і большага ўкладу працы, але рэзультат дае мастаку вялікае задавальненне. А і публіцы скульптуры з дубу таксама вельмі падабаюцца. Мы рады, што дзякуючы намаганням мастакоў і мясцовых улад удалося аднавіць пленэр, — сказаў камісар пленэру Станіслаў Асташэўскі.



Скульптура «Гаспадар пушчы» і яе аўтар Аляксандр Лазерка з Вістыч каля Брэста



На першым плане дзве скульптуры Віктара Кабаца

Два гады таму міжнародны пленэр разьбы па дрэве, які арганізаваўся ў Гайнаўцы ў шасцідзясятых і сямідзясятых гадах мінулага стагоддзя, аднавілі мясцовыя беларусы, гайнаўскія мастакі Уладзімір Мусько і Віктар Кабац. Камісарам першага аднаўленага пленэру быў Уладзімір Мусько — былы настаўнік і дырэктар Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы, ураджэнец Мокрага, аўтар скульптур і кніжак пра мясцовую гісторыю. Віктар Кабац, нягледзячы на свой узрост, штогод выконвае арыгінальныя скульптуры і такія прэзентаваў сёлета. Яны вельмі распазнавальныя. Спадар Віктар нагадаў, што да спынення пленэраў разьбы па дрэве ў Гайнаўцы спрычынілася ўвядзенне ваеннага становішча ў снежні 1981 года ў Польшчы.

— Пленэр разьбы па дрэве ладзіўся ў Гайнаўцы дзякуючы прыхільнасці ўлад Гайнаўкі і падтрымцы Гайнаўскага дрэваапрацоўчага прадпрыемства. Апеку над пленэрам трымаў Саюз польскіх мастакоў, дзейнасць якога была спынена зараз пасля ўвядзення ваеннага становішча. Па ініцыятыве ўлад Народнай Польшчы быў арганізаваны новы мастацкі саюз, якога не хацелі падтрымліваць мастакі. Без мастакоў не было магчымасці арганізаваць у Гайнаўцы пленэр разьбы па дрэве. Менавіта з-за яго Гайнаўка стала слаўнай на ўсю Польшчу і была вядомай сярод мастакоў Нямеччыны і іншых еўрапейскіх краін. Я таксама ўдзельнічаў у арганізацыі пленэраў, — сказаў Віктар Кабац, які ўдакладніў, што ў Гайнаўцы былі арганізаваныя 14 пленэраў разьбы па дрэве, у якіх прынялі ўдзел скульптары з Польшчы, Германіі, Літвы, Чэхіі, ЗША і Аўстраліі.

Сёлета Віктар Кабац выканаў дзве арыгінальныя скульптуры з дубу з выявамі славянскіх паганскіх ідалаў. Першапачаткова мастак карыстаўся механічнай пілой, пасля апрацоўваў скульптуры ўручную, затым частку прац выпальваў і дабаўляў каменне. Перад гайнаўскім пленэрам Віктар Кабац прымаў удзел у жывапісна-разьбярскім пленэры ў Нараўчанскай гміне, у жывапісным пленэры ў Нарве, а пад канец пленэру ў Гайнаўцы паехаў на пленэр у Вільню.

Скульптуры «Мелодыя пушчы» і «Гаспадар пушчы» выканаў у дубе беларускі мастак Аляксандр Лазерка.

— На скульптуры «Гаспадар пушчы» бачны — зубр, а таксама пушчанскія птушкі. Усе выявы састаўляюць цэласць. На разьбе «Мелодыя пушчы» відаць віяланчэль — душу пушчы, якая іграе пушчанскую мелодыю, — патлумачыў Аляксандр Лазерка.

Мастак удакладніў, што ў сваёй майстэрні выконвае ў галоўным разьбу ў стылі мадэрн. У час гайнаўскага пленэру хацеў ён паказаць пушчанскія асаблівасці вялікага лясного комплексу, распаложанага паабапал дзяржаўнай мяжы.

Юры Івацік з Гайнаўкі выканаў працу «Разгортваюся і загортваюся» і выяву рыбы.

— У мінулым годзе выразаў я кракадзіла, у гэтым годзе выканаў выяву рыбы, якую назваў "Я такая ёсць". Другая мая разьба напамінае папараць-кветку, якую назваў я «Разгортваюся і загортваюся». Я другі раз на гайнаўскім пленэры і рады атмасферы, якая тут пануе. Добра працаваць, калі ёсць многа тэм для супольных размоў. Падчас працы з удзельнікамі пленэру мы здабываем вопыт і вучымся працаваць у групе, — распавёў гайнаўскі скульптар Юры Івацік.

Гайнаўскія мастакі Марк Сапёлка і Станіслаў Жывалеўскі выканалі постаці паганскіх ідалаў славян. Скульптар Данель Ліпіян-Канюк з Любліна выканаў працы, «Натура», «Дуэт» і «Багіня прыроды», а Мікола Скляр — «Тры далоні», «Лёля» і «Дух пушчы».

Мастакі з Рэспубліку Беларусь цяпер пастаянна запрашаюцца і прымаюць удзел у гайнаўскіх пленэрах.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

# Дзень беларускага пісьменства і друку ў Слоніме

1 верасня ў Слоніме адбылося вялікае нацыянальнае свята — Дзень беларускага пісьменства і друку. Галоўнай падзеяй свята стала адкрыццё помніка Льву Сапегу. Скульптар Іван Міско падчас выступлення перад помнікам прапанаваў перайменаваць плошчу Леніна ў плошчу Льва Сапегі. Хаця слонімцы некалькі месяцаў таму сабралі подпісы і прапанавалі перайменаваць плошчу Леніна ў Тэатральную плошчу, бо плошча Льва Сапегі ў Слоніме ўжо ёсць. Мясцовыя вертыкальшчыкі не падтрымалі прапанову жыхароў Слоніма. Пасля адкрыцця помніка ўсе ўдзельнікі свята рушылі да цэнтральнай плошчы горада, дзе на галоўнай сцэне адбылося ўрачыстае адкрыццё свята. Старшыня Гарадзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў запэўніў, што і надалей на Гарадзеншчыне будзе падтрымлівацца творчая інтэлігенцыя, асабліва літаратары. На галоўнай сцэне свята адбылося ўшанаванне пераможцаў конкурсу «Нацыянальная літаратурная прэмія». Сярод пераможцаў і слонімец Уладзімір Ягоўдзік.

**Альжбета РУНІЦКАЯ,**
**Беларускае Радыё Рацыя, Слонім**






## http://museum.by

V Международная научная конференция
«Симеон Полоцкий: мировоззрение, общественно-политическая и литературная деятельность»
21–22 ноября 2019 г.

Цяжка ўявіць сучаснае ды і не толькі сучаснае грамадства без музейнай справы. Музеі — гэта захавальнікі імгненняў мінуўшчыны, якія часцяком выпадаюць з чалавечай памяці, але якія можна вярнуць у якасці прылад, дакументаў, фотаздымкаў. Чалавецтва ўжо даўно зразумела, што проста стварыць музей гэта замала, трэба яшчэ зрабіць так, каб музеі ўмела раскрывалі перад наведвальнікамі тыя экспанаты, якія яны захоўваюць. Гэтаму дапамагае абмен досведам, напрыклад, паміж музеямі адной краіны. І сайт, які акумулюе такія веды ў дадзеным выпадку будзе зусім не залішнім.

У беларускай краіне ёсць як дзяржаўныя, так і прыватныя музеі. Першыя фінансуюцца з дзяржбюджэту і маюць агульны сайт, які распавядае пра некаторыя з іх. Такі сайт месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://museum.by** і мае назву „Музеі Беларусі”.

З інфармацыі на галоўнай старонцы мы можам даведацца, што сёлета „Музеям Беларусі” споўнілася акурат дзесяць гадоў. „Дзесяць год назад, у 2009 годзе, быў запушчаны партал «Музеі Беларусі» (www.museum.by). Мы распрацавалі гэты праект, каб даць кожнаму музею, незалежна ад яго профілю, падначалення ці размяшчэння, магчымасць прадставіць сваю дзейнасць у інтэрнэце. Мы імкнуліся аб'яднаць прафесійную музейную супольнасць краіны ў рабоце над прэзентацыяй разнастайнасці культурнай спадчыны Беларусі. За гэтыя гады партал стаў зручнай пляцоўкай для зносін музейшчыкаў і наведвальнікаў, музеяў і турысцкіх арганізацый, для пошуку аднадумцаў”, — адзначаецца ў тэксце, прысвечаным юбілею.

Паводле тамтэйшых звестак, за прайшоўшыя гады на сайце з'явіліся новыя раздзелы, модулі і сэрвісы. Сёння «Музеі Беларусі» аб'ядноўваюць 154 дзяржаўныя музеі, прычым 87 з іх вядуць свае сайты на дадзеным партале. У гонар дзесяцігоддзя сайт цалкам абнавіў інтэрфейс. І калі параўнаць з папярэднім, то сапраўды можна пабачыць як палепшаны выгляд, так і больш цікавую навігацыю і функцыянал.

Сайт „Музеі Беларусі” мае тры моўныя версіі — рускую, беларускую і англійскую. Праўда, інфармацыі на апошняй значна менш, чым на дзвюх папярэдніх. У беларускай версіі шмат інфармацыі падаецца парusку. З гэтага можна зрабіць выснову, што перакладчыцкай працай для сайта асабліва займацца няма каму.

Калі зазірнуць у рубрыку „Навіны”, то з прыемнасцю можна адзначыць — паведамленні абнаўляюцца рэгулярна, і апошнія з іх былі апублікаваны ўжо ў жніўні. Актуальная інфармацыя месціцца і ў рубрыцы „Афіша”, дзе можна пабачыць анонсы бліжэйшых імпрэз, якія будуць праходзіць у тым ці іншым музеі.

Сярод іншых вартых увагі рубрык, дарэчы, не шматлікіх, можна адзначыць „Сайт музея на museum.by”. Выйсце на яго знаходзіцца ў правым верхнім вугле цэлага выяўлення на чорнай палосцы. „Партал «Музеі Беларусі» (museum.by) запрашае музеі Беларусі да супрацоўніцтва! Мы прапануем вам магчымасць стварэння ўласнага сайта вашага музея на партале Museum.by, дзе вы зможаце размяшчаць актуальную інфармацыю, падтрымліваць зносіны з пастаяннымі і прыбліваць новых наведвальнікаў”, — распавядаецца там. Гэтае супрацоўніцтва, паводле пададзенай інфармацыі, зусім бясплатнае для музеяў. „Галоўная ўмова супрацоўніцтва з намі — адказна ставіцца да напаўнення сайта зместам і падтрымліваць інфармацыю ў актуальным стане”, — адзначаюць „Музеі Беларусі”.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара



## 505 гадоў з дня бітвы пад ОРШАЙ

8 верасня 1514 года прайшла гучная бітва пад Оршай на рацэ Крапіўна. Адбылся разгром войскамі Вялікага Княства Літоўскага на чале з Канстанцінам Астрожскім маскоўскага войска. Адна з найбуйнейшых бітваў у гісторыі Еўропы XVI стагоддзя. Нездарма гэтая дата лічыцца Днём беларускай вайсковай славы.

7 верасня нашы войскі падышлі да Дняпра паблізу Оршы. Аднак пачынаць пераправу навідавоку, пад лучным боем, не выпадала. Былі б вялікія страты. Каб заблытаць праціўніка, гетман пусціў бродам толькі невялікую частку конніцы. Другая пераплыла раку пад прыкрыццём Аршанскага замка. Калі ж сцямнела, асноўныя сілы пайшлі ўверх па Дняпры і пачалі пераправляцца праз раку па наплыўным мосце каля вёскі Пашына. На світанку рух палкоў ВКЛ быў заўважаны, але расейскі палкаводзец Іван Чаляднін не пачынаў атакі. Ён саманадзейна чакаў, калі наша войска пераправіцца цалкам, каб знішчыць яго. А тым часам Астрожскі рыхтаваўся да бітвы. Наперадзе ён паставіў два конныя палкі і пяхоту з агнявой зброяй. Вершнікі размяшчаліся і ў другой лініі. Флангі трымалі палкі конніцы з лягчэйшым узбраеннем. На правым краі на ўзлеску гетман прыхаваў пад асланай пяхоты артылерыю.

Бітва пачалася раніцай 8 верасня 1514 года. Астрожскі вольна рушыў шыхты вершнікаў, быццам правакуючы праціўніка. Гэта падзейнічала на маскоўцаў і яны пайшлі ўперад. Разгарэлася сеча. Крытычнае становішча склалася на левым краі. Але нашы ваяры вытрымалі, а затым і пераламалі ход змагання на гэтым участку. Асабліва вызначылася пяхота з рушніцамі ды цяжкаўзброеная конніца. Мужны гетман на баявым кані і з непакрытай галавой з першай хвіліны быў у самых важных месцах. Кіраваў бітвай, натхняючы ваяроў прыкладам і словам. Выдатна выявілі сябе і іншыя камандзіры — Юрый Радзівіл, Іван Сапега, Януш Свярчоўскі.

Іван Чаляднін, думаючы, што нашы асноўныя сілы скаваныя ранейшай сечай каля Шугайлава, узмацніў дзеянні свайго другога крыла. Войска Астрожскага, нібыта не вытрымаўшы націску велізарнай масы баярскай конніцы, пачало адступаць да лесу. Маскоўцы ўжо думалі, што перамагаюць. Але нечакана «ўцекачы» расступіліся і нападнікі апынуліся перад артылерыяй і пяхотай з рушніцамі. Залпы ва ўпор рабілі ў іх шчыльных шэрагах жахлівыя спусташэнні, быццам віхор клаў лес. І маскоўскае войска паказала спіны, ратуючыся роспачнымі ўцёкамі. А за ўцекачамі, секучы, колючы, дратуючы, рушыла імклівая конніца Вялікага Княства. Асабліва лютая сеча была на Крапіўне. Як сцвярджалі тагачаснікі, скрываўленая рэчка запаволіла свой бег ад мноства цел чужынцаў.

Больш як у шасцідзесяці бітвах перамагаў Канстанцін Астрожскі, але Орша была найслаўнейшай. Тут найбольш выявіўся яго палкаводчы геній. Тут напоўніцу было скарыстанае ўменне адпаведна сілам праціўніка паставіць уласныя шыхты, нанесці ўдары ў патрэбным кірунку, навязаць ворагу сваю тактыку. Гетман ужыў фактар нечаканасці, максімальна выкарыстаў моц агнястрэльнай зброі ў вырашальны момант і асабістай мужнасцю натхняў ваяроў на гераічны чын.

Вестка пра Аршанскую перамогу разнеслася па ўсёй Еўропе. Яна трапіла на старонкі многіх хронік і летапісаў. Значэнне вынікаў гэтай бітвы ў тым, што ініцыятыва ў шматгадовай вайне трывала перайшла да ВКЛ. Усе захопленыя Масквой гарады, апрача Смаленска, былі вызвалены. Пачаў развальвацца скіраваны супраць нашай краіны таемны альянс Масквіі і еўрапейскіх дзяржаў.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Зноў ухабіны

Што як што, але пра ваяводскую дарогу з Юшкавага Груда ў Навасады каля Дубін трэба дбаць. Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог (ППВД) у Беластоку на гэтым адрэзку нешта робіць, пакрысе рамантуе маставую і зноў нічога не дзеецца. Неабходна рабіць захады, дамагацца, каб быў такі-сякі зрух у гэтай справе. Я, гмінны радны, гэта раблю не адзін год. Калі бачу, што трэба, еду да дырэктара ППВД у беластоцкай метраполіі па вуліцы Элеватарскай. Зараз на дарозе, якая перабягае, між іншым, цераз салэцтва Новае Ляўкова ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета ўжо няма ўхабін у маставой.

Але далей у напрамку Нараўкі на тэрыторыі Плянтаўскага салэцтва асфальтавая маставая ад Новага Ляўкова да чыгуначнага пераезда ў Плянце ўхабістая і, так мовіць, дзіравая. На гэты дрэнны паўкіламетровы кавалак вельмі прыдалася б г. зв. накладка, такая як зараз на маставой у Новым Ляўкове. Калі рамонт то салідны рамонт, не толькі «cząstkowy», як пішуць у адказ на маю інтэрпеляцыю адзін або другі дырэктар ППВД.

Сёлета вясною на вышэйзгаданым адрэзку шашы латалі выбоіны кавалачкамі бітумічнай масы, вымаючы іх з фольгавых пакецікаў. Дык зараз зноў гэтаксама як і было перад рамонтам. Па ваяводскай дарозе № 685 штодзень ездзяць рэйсавыя аўтобусы, сучасныя вялікія трактары ды вялікія і цяжкія грузавікі і коламі раструшчваюць стары ды нетрывалы асфальт. А як потым па ўхабістай маставой ехаць на ровары або матавеласіпедзе? Вядома ж, тут небяспечна.

Можа дырэктары ППВД у Беластоку возьмуць гэта пад увагу? Пашукайце грошай і зрабіце 500-600-метровую накладку. Усе карыстальнікі дарог будуць вам удзячны. Вадзіцелі легкавых аўтамашын не выдадуць грошай на новыя рысоры.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Дрэвы паміраюць



Сухастоіны ў лесе каля вёскі Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета.

**Фота Янкі Целушэцкага**

СЁННЯ
DZISIAJ
TODAY

XX TRIALOG W KRYNKACH 6–7 WRZEŚNIA 2019

ЁННЯ СЁННЯ СЁННЯ СЁННЯ СЁННЯ
DZISIAJ DZISIAJ DZISIAJ DZISIAJ DZIS
ODAY TODAY TODAY TODAY TODAY T
НЯ СЁННЯ СЁННЯ СЁННЯ СЁННЯ СЁ
SIAJ DZISIAJ DZISIAJ DZISIAJ DZISIAJ
TODAY TODAY TODAY TODAY TODAY

XX TRIALOG W KRYNKACH
СЁННЯ DZIŚ TODAY
6-7 września 2019

piątek, 6 września

**18:00 sztuka** Galeria Krynki, ul. J. Piłsudskiego 6, Krynki
Artur Klinau, Słodkie słomiane życie 3

**19:00 teatr** Synagoga Kaukaska, ul. J. Piłsudskiego 5
Niezależny teatralny projekt ГЭТАМЫ

sobota, 7 września

**11:00 – 17:00 dyskusja** Synagoga Kaukaska, ul. J. Piłsudskiego 5
moderator: Lawon Wolski

**11:00 – 12:30 białoruska rzeczywistość**
Roman Czepe, Mariusz Maszkiewicz, Bazyli Siegień
12:30 – 13:00 przerwa na kawę, Galeria Krynki, ul. J. Piłsudskiego 6
**13:00 – 14:30 literatura**
Danuta Zawadzka, Michał Androsiuk, Ihar Babkou
14.30 – 15.30 przerwa na obiad, Gospoda pod Modrzewiem, 1-go Maja 4
**15:30 – 17:00 kultura**
Alina Wawrzeniuk, Artur Klinau, Andrei Dureika, Anatol Wap
17:00 – 18:00 przerwa na kawę, Galeria Krynki, ul. J. Piłsudskiego 6

**18:00 – 20:30 muzyka** Synagoga Kaukaska, ul. J. Piłsudskiego 5

**18:00 – 19:00** Lavon Volski
19:00 – 19:30 przerwa, Galeria Krynki, ul. J. Piłsudskiego 6
**19:30 – 20:30** Prymaki

## Адгаданка

1. палескі горад між Пінскам і Жыткавічамі, 2. мэбля для ежы або пісання, 3. побач прозвішча, 4. месяц з Новым годам, 5. палескі горад між Лунінцом і Драгічынам, 6. крылаты конь паэтаў, 7. магутнасць, 8. латвійская сталіца, 9. месца працы прэстыдыжытатара, 10. сяброўка банкнота, 11. адукацыйная ўстанова.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. (ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | 2 | | | |
| | | 3 | | | | | | | | 4 |
| | | | | 5 | | 6 | | | | |
| | | | | 7 | | 8 | | 9 | | |
| 10 | | | | | 11 | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 32 нумара**

Масква, ноч, астрог, Інд, Бася, Лондан, беларус, неба, Варшава, руда, ацёк, Грэцыя.

Рашэнне: **Усякі чорт на сваё кола ваду цягне**.

## 08.09 — 14.09

**(22.03. — 20.04.)** 8-14.09. сустрэнеш захапляючыя асобы і перажывеш цудоўную прыгоду. Але 9-15.09. будзеш схільны да неабдуманых дзеянняў і гэта можа табе зашкодзіць. Калі ты народжаны ў I дэкадзе, 6-12.09. зможаш рашыць ключавую справу для вашай супольнай будучыні. Гарачы час на працы; многа арганізацыйных спраў і пасля работы; захавай спакой. Пільнуй дыету.

**(21.04. — 21.05.)** 8-9.09. прызнанне і павага ў прафесіі. 11-15.09. з поспехам выкарыстаеш кожную нагоду. Да старых праблем падыдзеш з новага боку. Вывучай новыя абшары ведаў прынамсі 8-10.09., 12-14.09. паставяць цябе за ўзор, можаш здабыць нейкую прэстыжную ўзнагароду. Будзеш прадстаўляць фірму ў важных перамовах. У фінансах зоркі адкруцяць кран з грашыма.

**(22.05. — 22.06.)** Не імправізуй, трымайся плана. У пары адмоўся ад «ціхіх хвілін». 12-14.09. купіш цікавую і важную кнігу. Калі плануеш падарожжа, 8.09. падрыхтуйся на нечаканыя складанасці. На працы не ўскладняй сабе і іншым работы. А калі вядзеш уласную дзейнасць, 8-10.09. можа дарвацца да тваёй фірмы цяжкі кантроль.Трымай парадак у дакументах. Актыўна адпачывай.

**(23.06. — 23.07.)** Жыццё будзе каціцца хутка, але не заспее цябе ніякае неспадзяванае здарэнне. Забудзешся на турбуючыя цябе сумненні і апаскі. 12-14.09. неспадзяваныя госці. 8-9.09. хтосьці верне табе доўг, аддадуць табе пераплату ці кампенсацыю. 13-15.09. пераканаешся, як сям'і і блізкім залежыць на тваёй асобе. Зацікавішся новымі дыетамі, зможаш кінуць курэнне. Часцей хадзі пешшу.

**(24.07. — 23.08.)** Добрая фінансавая паласа. Рэалізуй амбіцыйныя планы. На канцы дарог чакаюць цябе поспехі. 8-12.09. пільнуйся ад падлізаў і скрытых ворагаў. 9-15.09. магчымая спрэчка з партнёрам за грошы. Мала хто табе дагодзіць! 12-14.09. не выключай тэлефона і пошты, каб не абмінула цябе вельмі важная вестка. Выйдзеш з даўгоў. 11-15.09. твой арганізм стане актыўным да самалячэння, асабліва ў Львоў з III дэкады.

**(24.08. — 23.09.)** Не плануй, бярыся за дзеянні. Здабудзеш усё, што хочаш. 9-15.09. магчымыя напружанні ў пары, асабліва калі твой партнёр/ка не анёлак. 12-14.09. знакаміты час наладзіць суполку, падпісаць дамову на працу; скарыстаць на гэтым павінны перш за ўсё Дзевы з II дэкады. Калі дзейнасць твая ў мастацтве, асабліваe натхненне і поспехі 13-15.09; рэцэпт на поспех — хуткае, нават імпульсіўнае дзеянне — не калькулюй, паддайся эмоцыям; толькі старайся не пераборшчыць 9-15.09. і не нагавары чаго шэфу. Здымі нагу з газу.

**(24.09. — 23.10.)** 8-9.09 можаш аказаць на кімсьці павальнае ўраджанне! Падабаешся другому полу! 12-14.09. добрыя дні на службовую паездку ці пачатак вучобы. Трэба будзе засяродзіцца, прыкласціся да работы. Таксама калі ты шэф, не расслабляйся сам і трымай дысцыпліну. Трэба будзе крыху паашчаджаць. Пакуль яшчэ толькі чакаюць лепшыя заробкі.

**(24.10. — 22.11.)** Пачнуцца добрыя змены. Слухай выключна свайго сэрца. 8-9.09. знакаміты час памяняцца пярсцёнкамі. Можаш знайсці цікавую працу, паправіць фінансавую сітуацыю. 12-14.09. можаш намовіць сваю палавінку да выезду. 13-15.09. не закахайся ў бестурботным сінгле. Многа радасці ад сустрэч і размоў. Шукаючы новую працу, паведамі пра гэта ў інтэрнэце. Скарпіёны з I дэкады не завагаюцца перад крокам у невядомае. Падмацоўвайся часнаком.

**(23.11. — 22.12.)** Стаў на кар'еру, зойдзеш высока. 8-9.09. Добра заінвестуеш грошы, час і энергію. 13-15.09. твой мастацкі талент аказа вялікае ўражанне. 8.09. нічога не абяцай. 9-15.09. не дай сябе намовіць на рызыкоўныя мерапрыемствы. 8-10.09. тэст для старых пар. 8-12.09. нават не падыходзь да азарту. Ацэньвай рызыку.

**(23.12. — 20.01.)** Пачуццёвая стабілізацыя. Паправіцца паспяховасць тваіх дзеянняў. Для шукаючых другой палавінкі важная будзе саліднасць і адказнасць. Калі сустрэнеш іншую асобу, твая цярплівасць можа вычарпацца 9-15.09. 8-9.09. шыкуй бяседу для духу і цела. 8-12.09. можаш апынуцца ў падваротнай сітуацыі, але выкажашся халаднакроўем і заслужыш прызнання. 12-14.09. вельмі карысная для цябе прапанова. Някепская форма ўвесь месяц.

**(21.01. — 19.02.)** 8-9.09. без лішніх разваг дасягнеш сваёй мэты. Хаця 9-15.09. магчымыя нервовыя хвіліны. Зменлівае шчасце. Пасля 14.09. усё пакоціцца па тваёй думцы. Падтрымка сяброў. 8-10.09. рашай аб замене ці рамонце жылля. На працы ты пакуль на другім плане. І пакуль не думай аб яе змене. Вельмі пільнуйся еўшы і прымаючы лякарствы.

**(20.02. — 21.03.)** Рэалізуй адважныя планы. 8-9.09. збудуеш з партнёрам штосьці трывалае і важнае. Але 8-10.09. не падымай завысока перакладзіны. 8-12.09. не ўлезь у нейкую інтрыгу. Пашырыш гарызонты і схопіш прафесійную нагоду. 13-15.09. можа паявіцца хтосьці блізкі да твайго ідэалу. Правер, ці сапраўды. Але не будзь у адносінах да тае асобы лішне правакацыйным, бо ўцячэ. У пары больш эмацыйна. 8-9.09. можаш давесці да згоды ў сям'і. На працы ты крэатыўны і сяброўскі. 11-15.09. можаш пачаць рэалізацыю задум аб уласным бізнесе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Побач Саколкі



■ У сакалянскім „каўчэгу"

Некалькі разоў удавалася мне заблытацца ў падсакольскіх жвіроўках, часта даволі „камерных", без дарожных паказальнікаў. Таму наспела патрэба крыху дакладнейшай іх разведкі.

Злез я з поезда на станцыі Геніюшы. У эпоху будавання „Другой Польшчы" была там магутная перагрузачная станцыя. Мінулі гады, памяняліся не толькі палітычныя вектары, але і эканамічныя, да таго ж людзі, якіх прашчуры пасмакавалі плады з Дрэва пазнання, прыдумалі кантэйнеры і краны для іх перамяшчэння, таму традыцыйная перагрузка тавараў саступіла месца мадэрнай і перагрузачныя рампы сталі лішнімі, асабліва, калі і тавараў для перагрузкі стала нашмат менш. У Геніюшах зараз след па даўняй велічы станцыі прастыў, а перагрузачныя рампы, аброслыя па берагах садовымі і несадовымі дрэвамі, зараз нагадваюць паркавыя алейкі.

Недзе паўгода таму выбраўся я ў тое старонне, мяркуючы дабрацца з Геніюшаў у бок Богушаў, але праваронію адну важную, але слаба заўважную жвіроўку ў Кундзічах і пайшоў у зусім іншым напрамку, у бок Разадранкі. Зараз жа, пільна ўглядаючыся, удалося мне тую дарожку прыкмеціць і па ёй выйсці на асфальтавы гасцінец, які на картах названы Шляхам даўняга пагранічча. Па ім падаўся я ў бок Саколкі, а неўзабаве павярнуў у напрамку Богушаў.

Жвіроўка з Кундзічаў у Богушы не надта размашыстая. На ёй стаяла салідная аўтафура, якая займала амаль усю шырыню дарогі. Падышоўшы бліжэй, пабачыў я за ёй і дрэвамолку, з якой стружкі сыпаліся ў чэрава аўтафуры. Работнікі падкідалі голле з прыдарожных дрэў у дрэвамолку. А ззаду гэтага дрэважэрнага монстра паказалася не надта сімпатычная карціна: дарога і яе абочыны былі ўсыпаны грушамі-дзічкамі ды яблыкамі ад ссечаных з абочын дарогі голляў груш і яблынь. Ну, абочыны дарог павінны быць ачышчаны ад надта напорыстай драўніны, але тое дрэвапабоішча выглядала надта варварска.

У Богушах здарылася мне бываць толькі навонкі вёскі, на шашы ў Саколку. А цяпер здарылася нагода заглянуць і глыбей... Сорак адзін год таму Мікола Гайдук так быў размашыста пісаў пра вёску: „Сёння вакол Богушаў, што густа забудаванай, у вярсту даўжынёй, вёскай-вуліцоўкай перасоквакоўваць з пагорка на пагорак у якіх трох-чатырох кіламетрах на паўночны захад ад Саколкі, нават і на лякарства праўдзівага лесу не знойдзеш, а калісьці... Тое „калісьці" было каля пяцісот год таму і тады іменна тут яшчэ шумела векавая пушча. Была яна ўласнасцю „гаспадарскай", гэта значыць належала да вялікіх князёў літоўскіх. Праўда, „гаспадары" даволі шчодрай рукою адрэзвалі ды адрывалі ад яе ладныя кавалкі, каб абдароўваць сваіх прыбліжаных вяльможаў або аддаваць пад заклад за розныя пазыкі. І так над аграмадным лясным масівам, што прасціраўся ад вярхоўяў ракі Нарвы аж да сярэдняга цячэння Нёмана, павісла пагроза быць цалкам разграбастаным Радзівіламі, Гаштолтамі, Хадкевічамі, Масальскімі, Валовічамі і іншымі магнатамі. Урэшце, рамантычны і ўлюбчывы, як усе Ягелоны, кароль польскі і вялікі князь літоўскі Зыгмунт Стары даравальнай граматай ад 21 лютага 1524 года ахвяроўвае сваёй каханай жоначцы каралеве Боне „рэштку" гэтага масіва, якая цягнулася шырокім пасам ад ракі Супраслі аж да Коўна. І новая каранаваная „гаспадыня" ўзялася за справу як належыцца, па-гаспадарску. Яна не толькі болей не ўступіла нікому нават і пядзі пушчы, але выкупіла з-пад закладаў значныя яе абшары, адабрала таксама і тое, што было прысвоена некаторымі магнатамі рознымі хітрыкамі, сама ахвотна прымала ад усіх самыя маленькія лясныя ці зямельныя ахвяраванні. У „гаспадарскіх" маёмасцях пачала ўводзіць самыя новыя як на тыя часы гаспадарчыя рэформы, дзякуючы якім у пусты дагэтуль каралеўскі скарб



■ Сходкі ў сакалянскі касцёл

паліліся аграмадныя даходы. „Ну, добра, — заўважыць чытач, — але якое дачыненне да ўсяго гэтага мае вёска Богушы?" — Самае, што ні ёсць, непасрэднае! Упаўнаважаныя каралевай Бонай спецыяльныя землямеры ўсе сядзібы баяраў, асочнікаў і звычайных сялян, што былі рассыпаны бясспланава па ўсёй пушчы, загадалі сцягнуць на выдзеленыя ім зямельныя ўжыткі на яе ўскраіне ў дакладна запланаваныя вёскі-вуліцоўкі. І такім чынам, побач з сотнямі іншых, паўстала і вёска Богушы. Пачаткова насялялі яе асочнікі, якія за карыстанне зямлёю абавязаны былі сцерагчы тадышнюю Маляўіцкую пушчу і служыць „гаспадару" вялікаму князю літоўскаму і яго княгіні ў часе іхніх тут паляванняў. (...) І даводзілася тады асочнікам з Богушаў дбаць пра тое, каб пад гакаўніцы каранаваных асоб натоўпам ахвотна беглі туры, зубры, ласі, дзікі ды іншы звер. Што сярод іх былі людзі з прозвішчам Богуш, не можа быць і сумнення, бо ад яго займела сваю назву вёска. Але да нашых дзён гэтае прозвішча тут не захавалася, не было яго і сто гадоў таму назад сярод тутэйшых сялян. (...) [Жыхары Богушаў] спакон веку былі вольнымі, на паншчыну не хадзілі. Мелі на гэта спецыяльную грамату каралеўскую. Зайздросцілі ім усе навакольныя сёлы. Калі ж у Богушах старшынёю стаў нейкі Бандарык, што ад кварты з гарэлкай ніякай сілаю не адарвеш, суседняя вёска Панятовічы кінулася ў хітрыкі. Заманіла Бандарыка ў карчму і паіла да той пары, пакуль той аддаў ёй каралеўскую грамату. І ад таго часу давялося Богушам хадзіць на паншчыну. Такім надта ж песімістычным акордам закончылася ў Богушах слаўная іх асочніцкая традыцыя".

Так было калісьці. А ў Гайдукоў час: „Апошнія трыццаць год упісаліся ў гісторыю Богушаў вельмі прыемнымі фактамі: электрычным святлом, крамай, бібліятэкай, апошнім часам нават водаправодам!" З тago дабрадзейства па сённяшні дзень захавалася ў адлеглай тры кіламетры ад Саколкі велікаватай вёсцы сімпатычная крама, а гэта і сведчанне трываласці там насельніцтва...

З Богушаў падаўся я далей, у бок Жукоў. Але збочыў і ў напрамку пасёлішча Сербаўцы. У саму вёсачку, дзе вуліца з пясочнага насцілу, не заходзіў, аднак відаць, што там яшчэ трымаюцца гаспадары — у крайняй загарадзе відаць было статак авечак. У Жуках новы мост на рачулцы, якую называюць спачатку Кладзевам, пасля Саколдай. Глянуў я і на школьны будынак, не надта даўно пабудаваны, а ўжо панадворка яго даўно не кранаалі дзіцячыя ногі; у Богушах школа яшчэ рыхтавалася да прыёму вучняў.

З Жукоў недалёка ў Сакаляны. Перад вёскай, з боку Янава, навінка: новая кругавая развязка з дарогамі ў новых напрамках. Але пакуль рух адбываецца па старых насцілах. У Сакалянах захапляў мяне касцёл, асабліва ж сходкі, быццам біблейская лесвіца ў Царства нябеснае. Раней не было ў мяне часу зайсці на тыя сходкі, а цяпер аставалася мне амаль гадзіна да ад'езду аўтобуса ў Саколку. Ну, і падаўся я на тыя сходкі. Але спярша пра сам сакалянскі касцёл; Вікіпедыя: „Nazwa pochodzi od ptaka sokoła. Wieś chłopów królewskich z ekonomii grodzieńskiej powstała w czasie pomiary włócznej w XVI w. na 30 włókach. Pierwsza wzmianka pochodzi z 1601 r. (...) Pierwszy drewniany kościół został zbudowany w 1617 r. przez Hieronima Wołłowicza. Świątynia została strawiona przez pożar w 1827 r. i wówczas zbudowano nową, murowaną, którą poświęcił 5 listopada 1833 r. archidiakon białostocki ks. Franciszek Piotrowski. W latach 1908-1911, dzięki staraniom księży Tadeusza Makarewicza i Antoniego Walentynowicza, kościół rozbudowano dodając prezbiterium, dwie zakrystie i wieżę. 23 czerwca 1941 r. kościół został uszkodzony przez pocisk artyleryjski, a 24 lipca 1944 r. cofający się Niemcy wysadzili wieżę i zburzyli część nawową. W 1945 r., po ustaniu działań wojennych, został wybudowany kościół drewniany. W 1996 r. parafianie z ks. Władysławem Kulikowskim na czele przystąpili do budowy nowego kościoła murowanego. Projekt świątyni sporządził inż. arch. Jerzy Zgliczyński. Budowlę usytuowano w miejscu dawnego kościoła murowanego, a 1 lipca 2001 r. poświęcił ją bp Edward Ozorowski".

Падаўся я на прываблівыя сходкі, акуратныя, шырокія, з парэнчамі. І пабачыў, што па іх зараз бадай ніхто і не ходзіць у храм — не відаць там слядоў хады. Наверсе, вакол касцёла — Эдэм, прыгожы міні-парк, а ў ім адмысловыя фігуры розных фаўны са штучных кветак. Быццам Ноеў каўчэг. І лебедзі там, і гусі, і нейкая жывёла, якая нагадвае ці то варана, ці дыназаўра. У Пісанні дакладна не згадваецца, якія жывёлы забраў з сабою Ной для выратавання; магчыма, што не забраў ён з сабою дыназаўраў, таму мабыць яны захаваліся да сёння толькі ў раскопках дагістарычнасці. А за касцельнай агароджай, з боку Саколкі, шыкарная аўтастаянка — вось і рассакрэчанне запушчанасці сходкаў з другога боку касцёла. Людзі, якіх прашчуры пасмакавалі плады з Дрэва пазнання, прыдумалі самаходы; і сходкі — як помнік даўніны...

Пайшоў я на аўтобусны прыпынак. Аўтобус з Дубровы чамусьці не прыехаў і мне давялося пашагаць у Саколку пехацінцам. З шашы пабачыў я ў трохсот-чатырохсот метрах ад дасюлешняй дарогі новую роўненькую паласу. Падаўся я туды, на гладкую як стол новую асфальтоўку паміж Саколкай і Дубровай. Мінае яна і Сакаляны, і Вараняны, і Красняны. Некалькі гадоў не заглянеш у нашы ландшафты, а яны паказваюцца ў зусім новым выглядзе...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960
36